—Людзьмі звацца!
Янка Купала

# ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
16
КАСТРЫЧНІКА
1992 г.
№ 43 (3661)

ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.

КОШТ — 50 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)

ПРОСТЫЯ СЮЖЭТЫ



## Дарожнік

Каля дарогі сядзеў дарожнік, вельмі падобны на ўсіх загарэлых рабацяг у чырвоных безрукаўках. Ні адна рысачка на ягоным твары не выдавала цікавасці да тых, хто едзе ці ідзе па ягонай дарозе. Гаркаваты смак дыму сведчыў пра сталую звычку чалавека курыць добравысушаную «Астру».

— Выручце насосам,— перапыняю думкі дзядзькі.

Знайшлася помпа і розныя ключы і, падкатваючы слабыя колы домаадпачынаўскага ровара, даведваюся, што жыве Васіль (прозвішча не пішу, каб не памыліцца) у вёсцы Двор Жары, што семнаццаць год працуе на дарожным участку ад Ушакоў да мяжы з Лепельскім раёнам.

Дарога, на якой яшчэ не скора ляжа асфальт, у сухія летнія дні шчодра запыльвае навакольле густым белым пылам. У восеньскую макрэчу кісне ў лужах і вязне ў глеі. Зімой, як і належыць, часта замецена, і са зледзянелымі віражамі. Працы дарожніку хапае. Але заўсёды знакі і слупы на ўзбочынах стаяць урачыстыя і свежанькія, як генералы, то чыста-бялюткія, то бела-чорныя (у арсенале дарожніка толькі два колеры).

— Хачу вас сфатаграфаваць,— вяртаю дзядзьку рыштунак і расчахляю фотакамеру.

— Скажы толькі, як лепей сесці,— гаворыць дарожнік з тым жа спакойным выглядам, быццам кожны дзень яму робяць прапановы пазіраваць.

**Анатоль КЛЯШЧУК.**

Фота аўтара.

# ЗАЛА—ТАЯ Ж. А Ў ЗАЛЕ?

## Пасляслоўе да сустрэчы С. Шушкевіча і В. Кебіча з пісьменнікамі

Яна, нагадаем, адбылася 12 кастрычніка, у панядзелак і к гэтаму часу набыла шырокі розгалас: вечарам таго ж панядзелка пра яе расказала тэлебачанне, а ў наступныя дні — ці не ўсе рэспубліканскія газеты. З гэтай прычыны наўрад ці ёсць патрэба пераказваць чытачам «ЛіМа» тое, што на ёй гаварылася. Адзначу толькі, што выступілі В. Зуёнак, Н. Пашкевіч, В. Іпатава, Б. Сачанка, В. Адамчык, У. Паўлаў, В. Болтач, С. Законнікаў, што гаварылі яны пра цяжкія, невыносныя ўмовы, у якія сёння трапіла наша літаратура, беларуская кніга, наогул друк, пісьменніцкі саюз і самі пісьменнікі ў выніку разгулу стыхійнай, дзікай камерцыі і дэнацыяналізаванага, бездухоўнага прадпрымальніцтва, пра парадаксальнасць сённяшняй сітуацыі ў рэспубліцы, калі з абвяшчэннем яе суверэнітэту, набыццём не фармальнай, а сапраўднай незалежнасці, наданнем статуса дзяржаўнай беларускай мове наша нацыянальнае Адраджэнне не толькі не набывае пашырэння і паскарэння, а, наадварот, часта тармозіцца, натыкаецца на незразумелыя перашкоды, трапляе ў сіло таго самага некіруемага, бязлітасна-разбойнага рынку. С. Шушкевіч і В. Кебіч выслухалі пісьменнікаў, у асноўным пагадзіліся з выказанымі імі меркаваннямі, падтрымалі многія іх просьбы, пажаданні і прапановы, паабяцалі ўважліва вывучыць стэнаграму сустрэчы і даць праз нейкі час Саюзу пісьменнікаў падрабязны адказ.

Значыць, усё добра? Поўнае ўзаемапаразуменне і аднадушнасць? Чаму ж тады, калі ўдзельнікі сустрэчы пакідалі будынак Вярхоўнага Савета, я не бачыў на тварах сваіх калег і сяброў задаволенасці? Чаму і ў мяне на душы было тужліва, прынамсі — не пакідала адчуванне нейкай ці то прыкрасці, ці то недаўмення?

Сустрэча адбывалася ў гэтак званай «белай зале» былога будынка ЦК КПБ. Аднойчы я ўжо быў у ёй — на сустрэчы з Яфрэмам Яўсеевічам Сакаловым. Тая сустрэча пакінула гнятлівае ўражанне: хадзіў уздоўж стала някідкі, але да смешнага напышлівы чалавек і нязграбнаю, безаблічна-чыноўніцкаю рускаю моваю вяшчаў банальныя ісціны. Думалася: хто і каго тут павінен быў бы найперш слухаць? Пісьменнікі — гэтага чалавека, воляю нейкага недарэчнага выпадку ўзнесенага так высока, ці, наадварот, ён — пісьменнікаў?

Такая ж думка чамусьці прыбягала, дайце веры, і гэтым разам. Прынамсі, з самага пачатку збянтэжыла мяне, што зала заліта яркім святлом, што ў ёй мноства тэле-, кіна-, фотакамер і журналістаў. Само сабою, іх прывялі сюды не пісьменнікі. Значыць, пастаралася прэс-служба Вярхоўнага Савета? Каму ж тады была больш патрэбна гэтая сустрэча? Пісьменнікі ішлі сюды са спадзяваннем на нязмушаную, шчырую, сяброўскую гаворку пра тое, ШТО баліць і АД ЧАГО баліць. А тут — зыркасць сафітаў і шчыльнае акружэнне газетчыкаў.

Мо і з гэтае прычыны гаворка адразу ж атрымала збой, не набыла належнага тону, інтанацыі шчырасці і даверу, а, галоўнае, вышыні? Зрэшты, мо проста дала аб сабе ведаць славутая пісьменніцкая несабранасць? Як бы там ні было, але гаворка, так і не ўзбіўшыся на кардынальныя, вызначальныя праблемы нашага — не толькі літаратурнага — жыцця, звялася, бадай, да матэрыяльна-фінансавых цяжкасцей саюза і яго, так бы мовіць, падраздзяленняў.

Зрэшты, проста на большае, можа быць, і часу не хапіла. Для выказвання гасцям «белай залы» была вызначана гадзіна. За гэтую гадзіну паспелі ўзяць слова толькі восем чалавек, а жадалі ўключыцца ў гаворку, несумненна, і многія іншыя.

Але найбольш засмуціла іншая акалічнасць. Гэта пасля ўжо, калі гаварылі «гаспадары». Вячаслаў Францавіч паабяцаў пісьменнікам падтрымаць ці не ўсе іхнія просьбы і прапановы. Слухаць яго выступленне (дарэчы, добраю беларускаю моваю) было прыемна, ды толькі гэтая самая шчодрасць абяцанкаў і насцярожвала. Ці не занадта хуткі і шчодры наш прэм'ер на абяцанкі? І якія гарантыі таго, што яны будуць выкананы?

Станіслаў жа Станіслававіч абяцаў менш, хоць, як я ўжо казаў, таксама паставіўся да пісьменніцкіх праблем уважліва, заявіўшы, што пільна вывучыць стэнаграму сустрэчы. Аднак жа...

Аднак жа было ўражанне, што, пачынаючы сваё выступленне, С. Шушкевіч як бы адразу ж паставіў між сабою і гасцямі-суразмоўнікамі нейкую невідочную сценку — ці то недаверу, ці паблажлівасці. Чым? Ну хоць бы сваёю заўвагаю аб тым, што пісьменнікі — кепскія палітыкі, што наогул палітыкай ім лепш не займацца. Чуць гэта было дзіўна. Няўжо лепшымі палітыкамі былі колішнія шматлікія выпускнікі сельгасакадэміі ці ВПШ? Далей: заўвагаю аб тым, што замест беларусізацыі лепш гаварыць пра Адраджэнне. Гэта цалкам слушна, калі мець на ўвазе тэрміналогію. А па сутнасці? Слова «беларусізацыя» мо сапраўды гучыць «нясмачна» (як тая ж русіфікацыя), ды толькі на самай справе азначае яно для ўсіх нас найперш наша нацыянальнае адраджэнне, вяртанне да нацыянальных форм усяго нашага жыцця, ва ўсіх яго сферах і ўзроўнях. І трэцяе: заўвагаю адносна таго, што трэба быць надзвычай асцярожнымі і памяркоўнымі да тых, хто па прычыне выхавання, занядбання цягам доўгіх гадоў беларускай мовы сёння не можа адразу загаварыць па-беларуску. Але ж выбачайце: а хто і калі патрабаваў, каб гэтыя людзі сёння ж загаварылі на беларускай мове? Пісьменнікі гаварылі пра іншае: пра непавагу да мовы, культуры, звычаяў нашага народа, пра кволасць зрухаў у ажыццяўленні Закона аб мовах, пра нападкі на гэты закон і патрабаванні рэвізаваць яго...

Карацей кажучы, быў момант, калі падалося, што Станіслаў Станіслававіч быццам папракнуў пісьменнікаў у празмернасці іх патрабаванняў няўхільна ажыццяўляць Закон аб мовах, іх жадання найхутчэй бачыць сваю дзяржаву адроджанай, годнай у сям'і іншых цывілізаваных дзяржаў. Мусіць, тады і прыйшло засмучэнне: хіба можна за гэта папракаць? Жаданне бачыць сваю краіну сапраўды незалежнай, нацыянальна-адроджанай — тое ж самае для чалавека, што жаданне бачыць сваіх дзяцей здаровымі і шчаслівымі. Хіба можа быць яно празмерным?..

Ды, зрэшты, мо і не варта было пра ўсё гэта гаварыць? Мо гэта мімалётнае адчуванне ніякаватасці за нашага прэзідэнта ўяўнае?

Бо літаральна праз два дні, выступаючы перад аршанцамі, Станіслаў Станіслававіч гаварыў пра ўсе гэтыя праблемы вельмі хораша, разумна, слушна і пераканаўча, расставіўшы ўсе кропкі над «і». Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь бліскуча пацвердзіў сваю даўнюю рэпутацыю шчырага і свядомага абаронцы нацыянальных інтарэсаў нашага народа, вопытнага і ўмудронага дзяржаўнага дзеяча.

Значыць, ёсць спадзеў, што і сустрэча ў «белай зале», падчас якой, на жаль, у нас, яе ўдзельнікаў, узнікалі сумненні і пачуццё няёмкасці, усё ж дасць пэўны плён, паспрыяе паляпшэнню сітуацыі ў сферы культуры, таму, каб наша літаратура, кніга і друк не толькі выжылі, але і зрабілі крок па шляху ўздыму.

Мікола ГІЛЬ.

# Кола Дзён

Унутрыпалітычны спакой у нашай рэспубліцы—на фоне напружаных падзей вакол нас і блізка ад нас—журналістаў, аглядальнікаў, палітыкаў не можа не здзіўляць. Пaглядзіце: выпрабоўвае свае мускулы (пакуль, праўда, пераважна ў дыпламатычнай і ваенна-палітычнай формах) Расійская Федэрацыя, праходзяць выбары вышэйшых органаў улады ў Эстоніі і Грузіі, мацуюць свае суверэнітэты краіны Балтыі—хаця метады іхняй незалежнізацыі ўсё часцей трактуюцца на Захадзе, які моцна іх падтрымліваў,—як парушэнне правоў чалавека... У Беларусі на такім фоне ўсё спакойна. Неўзабаве адкрыецца чарговая сесія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, можа, тады і парушыцца гэты спакой? Ва ўсякім разе пытанне пра рэферэндум мае стацца і палітычным, і маральным выпрабавальнікам Вярхоўнага Савета—бо яно ўжо ўключана ў парадак сесіі самім народам. Але ці хопіць у гэтага Вярхоўнага Савета палітычнага вопыту і маральнасці, каб не ўпусціць з-пад увагі гэтую істотнейшую акалічнасць...

**7 КАСТРЫЧНІКА**

Новавыбраны орган вышэйшай улады Эстоніі —мананацыянальны, бо ў ім няма аніводнага неэстонца — Дзяржаўны сход выбраў Прэзідэнтам Эстоніі Ленарта Мэры, былога міністра замежных спраў, прадстаўніка фракцыі «Ісамаа» («Бацькаўшчына»). У першым, усенародным туры выбараў прэзідэнта адносную большасць галасоў набраў, як вядома, Арнольд Руйтэль, але Дзяржсход выказаўся па-іншаму. Эмігранцкі ўрад Эстоніі спыніў сваю дзейнасць.

**8 КАСТРЫЧНІКА**

Выканкам Партыі народнай згоды і рады Беларускага згуртавання вайскоўцаў выступілі з сумеснай заявай — асуджэннем дзейнасці некаторых партый і рухаў у рэспубліцы, накіраванай на раскол грамадства па моўным пытанні, правакаванне канфрантацыі. «Мы супраць гвалтоўнага пераводу ўсяго грамадства на беларускую мову, але дзяржаўныя ўстановы павінны ў вызначаны законам час пераходзіць на дзяржаўную мову. Сёння гэта адна з галоўных гарантый беларускай дзяржаўнасці і суверэнітэту», — гаворыцца ў заяве.

Апублікавана ў друку пастанова Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва «Аб павышэнні заработнай платы педагагічных работнікаў і прафесарска-выкладчыцкага саставу, асноўных катэгорый спецыялістаў аховы здароўя, інфармацыі, культуры і мастацтва». У «асноўныя катэгорыі» ўключаны работнікі тэлебачання і радыё, пра рэдакцыі газет і часопісаў нічога не сказана.

**9 КАСТРЫЧНІКА**

У Літоўскай Рэспубліцы ў два разы павялічыліся цэны на хлеб. Тымчасам настаўнікам літоўскай мовы і літаратуры агульнаадукацыйных школ Віленшчыны (дзе большасць насельніцтва складаюць беларусы і палякі) назначана штомесячная надбаўка да зарплаты 15 долараў ЗША. Сплачваць долары праваднікам летуанізацыі ў Віленскім краі будзе адна з сем'яў літоўцаў-эмігрантаў, што жыве ў Амерыцы.

Адбылася чарговая сустрэча кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў СНД у Бішкеку. Інфармацыйныя паведамленні пра змест сустрэчы вельмі блытаныя. Выдае, што ўдзельнікі СНДэўскіх сустрэч заблыталі не толькі журналістаў, але й саміх сябе.

У сваім доме ў прадмесці Бона ад раку памёр лаўрэат Нобелеўскай прэміі міру, старшыня Сацінтэрна, ганаровы старшыня СДПГ Вілі Брант. Пахаванне адбудзецца 17 кастрычніка.

**10 КАСТРЫЧНІКА**

Адбылося чарговае пасяджэнне сойма БНФ «Адраджэнне». Абмяркоўвалася палітычная сітуацыя напярэдадні сесіі Вярхоўнага Савета, пытанні ўзаемадзеяння БНФ з прафсаюзамі.

Рашэннем Шведскай акадэміі Нобелеўская прэмія па літаратуры за 1992 год прысуджана паэту Дэрэку Уолкату (Трынідад).

**12 КАСТРЫЧНІКА**

Сталі вядомыя вынікі выбараў у Грузіі. Старшынёй Вярхоўнага Савета выбраны Эдуард Шэварднадзе. За яго прагаласавалі 95 % выбаршчыкаў з 83 % браўшых удзел у выбарах.

**13 КАСТРЫЧНІКА**

Даверчыя граматы першаму намесніку Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь В. Кузняцову ўручыў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Вялікага Герцагства Люксембург Ж. Хостэр.

Старшыня Вярхоўнага Савета С. Шушкевіч візітуе ў Оршы. Меліся сустрэчы з гарадскімі ўладамі, ускладанне кветак да помніка У. Караткевічу.

**14 КАСТРЫЧНІКА**

Адкрыўся «Мінскі кірмаш Восень-92». Кірмаш будзе працаваць не толькі ў сталіцы, але й па ўсёй рэспубліцы.

З НАГОДЫ

# БЕНЗІН — ВАДКАСЦЬ ГАРУЧАЯ...

## Некалькі слоў услед чарговаму павышэнню цэн

На мінулым тыдні Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі С. Шушкевіч запэўніў, што «ў бліжэйшы час» цэны на бензін у рэспубліцы павышацца не будуць. Акурат на наступны дзень цэны павысіліся ў два з паловай разы. У гэты ж дзень пачалася сустрэча кіраўнікоў дзяржаў СНД у Бішкеку, якая напярэдадні была названа «самай-найсамай» (як і ўсе ранейшыя, дарэчы) і якая не дала практычна ніякіх канкрэтных вынікаў у вырашэнні неадкладных эканамічных праблем. Праўда, дзеля справядлівасці трэба заўважыць, што кіраўнікі Беларусі (як і заўсёды раней) з такой ацэнкай журналістаў не пагадзіліся.

Цяпер будзем чакаць «юбілейнай» сустрэчы кіраўнікоў СНД у Мінску 4 снежня, на якую, зноў жа, ускладаюцца вялікія спадзяванні. Але спадзяванні і прагнозы — рэч у наш час ненадзейная. Спікер нашага парламента аднойчы ўжо прадказваў стабілізацыю цэн... І вось — зноў не ўтрымаўся. Мо яго падвялі дарадцы? Адказны чыноўнік з дзяржкамнафтапрадукта рэспублікі напярэдадні ў прэсе таксама ж ледзь не бажыўся, што новых расцэнак на бензін проста не існуе ў прыродзе.

Магчыма, гэта былі звычайныя дзяржаўныя хітрыкі — утрымліваць новыя цэны ў тайне, каб не выклікаць ажыятажу? Дык не было ж аніякага ажыятажу апошнім часам на бензакалонках, паколькі не было ў свабодным продажы бензіну. (Па «свабодных» цэнах — калі ласка). Самае ж цікавае, што чэргі на аўтазапраўках цяпер зноў выраслі — верная прыкмета таго, што павышэнне цэн на гаручы прадукт не стане апошнім.

Падобную карціну можна было назіраць у Маскве, дзе цэны на бензін падскоквалі двойчы на працягу месяца. Апошні раз — пасля таго, як Б. Ельцын публічна паабяцаў, што... сёлета цэны на паліва больш не павысяцца.

Гэта можна было б лічыць асабістай праблемай прэзідэнта Расіі і ягонага рэйтынгу. Аднак, калі расійскі віцэ-прэм'ер В. Чарнамырдзін выстаўляе ледзь не ультыматум незалежным дзяржавам — выплаціць пазыкі за пастаўкі паліва ў некалькі дзён, інакш яны будуць рэзка абмежаваны, тут ужо не да смеху. Як вядома, паміж урадам Беларусі і ўрадам Расіі падпісаны пагадненні — у прыватнасці, па нафце і цэнах на яе. У сітуацыі, якая склалася сёння, лагічна было б чакаць нейкай энергічнай рэакцыі беларускага ўрада. Замест гэтага пачулася няўцямнае мармытанне наконт таго, што выплаціць пазыку ў прызначаны тэрмін не ўяўляецца магчымым...

Усяму гэтаму можна знайсці толькі два тлумачэнні. Або высокапастаўленыя афіцыйныя асобы трымаюць нешта «сабе на ўме», не жадаючы пасвячаць абывацеля (г. зн. — грамадзян Беларусі) у хітрасплценні вышэйшай палітыкі. Альбо, што яшчэ горш, кіраўніцтва не валодае сітуацыяй у эканоміцы, прапускаючы адзін за адным удары з боку «партнёраў» па «агульнай рублёвай прасторы».

Ну, а як адрэагуе на гэта парламент? Пра яго доўгія канікулы сказана ўжо нямала слоў. Але трэба, відаць, гаварыць не пра канікулы, а пра злосны прагул. Цікава, ці прымусяць новыя цэны на бензін дэпутатаў (сярод якіх нямала аўтааматараў) як след мабілізавацца перад восеньскай сесіяй? Пераэкзаменоўкі на лета можа і не быць...

**Віталь ТАРАС.**

# Хроніка Адраджэння

У Віцебскім мастацкім музеі адкрылася літаратурна-мастацкая выстава «Песняры зямлі беларускай», прысвечаная 110-ым угодкам з дня нараджэння Я. Купалы й Я. Коласа.

●

Выпушчаны першы беларускі паштовы блок, прысвечаны 1000-годдзю Беларускай праваслаўнай царквы, з выявою полацкай Спаса-Ефрасіннеўскай царквы, фрагмента фрэскі XII ст. з гэтага храма. Кошт паштовага знака—5 рублёў.

●

У Віцебску ў продажы з'явілася і была хутка раскуплена новая серыя значкоў-выяў старажытных паселішч Віцебшчыны: Сянна, Докшыц, Суража, Друі, Дзісны. Такі ж лёс напаткаў і вымпелы з дзяржаўнымі сімваламі Рэспублікі Беларусь.

●

У Полацку выйшаў першы нумар гісторыка-літаратурнага часопіса «Полоцкі лѣтописецъ».

●

Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь выдрукавала цалкам беларускамоўны канверт з маркай нашай краіны. На ім малюнак Героя Савецкага Саюза З. М. Тусналобавай-Марчанкі. Мастак — В. Ілюхін. Цана канверта — 1 руб. 78 кап.

●

Споўніўся год з дня выхаду першага нумара віцебскай газеты дэмакратычных плыняў «Выбар». Выданне актыўна выступае за адраджэнне нацыянальнай мовы ды культуры беларусаў, прыадчыняе забытыя ці невядомыя старонкі гісторыі краю і жыцця нашай эміграцыі.

**Юрась СЦЯПАНАЎ,**
**наш карэспандэнт у Віцебску.**



Ансамбль мясцовага Дома культуры выконвае любімыя Драздовічам песні.



Служба ў касцёле ў Германовічах, прымеркаваная да Дня памяці Язэпа Драздовіча.

# У Германовічы — да дзядзькі Язэпа

Дзень памяці Язэпа Драздовіча — графіка, жывапісца, скульптара — адбыўся ў пасёлку Германовічы Шаркоўшчынскага раёна. Дзіваком з барадой і доўгімі валасамі, які хадзіў па наваколлях з мальбертам, распісваў у дамах дываны і вельмі любіў слухаць народныя песні — такім прадстае мастак ва ўспамінах старажылаў. Час даў высокую ацэнку дзейнасці і творчасці Драздовіча, які ўнёс прыкметны ўклад у скарбніцу беларускай культуры. Свята ж у Германовічах паказала, што яго памятаюць і шануюць у родных краях.

Фота Аляксандра ТАЛОЧКІ. (БЕЛІНФАРМ).



Настаўніца Ада Эльеўна Райчонак дэманструе новы музейны экспанат — трысціну работы Драздовіча.

З ПОШТЫ «ЛіМа»

# Беларускае пасольства ў Маскве: якім яму быць?

Шаноўны «ЛіМ»! Мы, актыў беларускай дыяспары Масквы, просім расказаць на тваіх старонках аб сваіх стасунках з паўпрэдствам Рэспублікі Беларусь. Набліжаецца сесія ВС рэспублікі, на якой будуць разглядацца важныя для нашай дзяржавы пытанні, у тым ліку пытанне аб адкрыцці замест паўпрэдства пасольства і зацвярджэнні пасла.

Нацыянальна-культурныя суполкі беларусаў Масквы пачалі ўтварацца ў 1988 годзе. Так узніклі Таварыства беларускай культуры імя Францішка Скарыны (1988 год), суполка студэнцкай моладзі «Пагоня» (1988), Маскоўскае згуртаванне беларусаў-вайскоўцаў (1990) і іншыя. Зараз утворана рэгіянальнае аддзяленне беларусаў свету «Бацькаўшчына». З самага пачатку сваёй культурна-асветніцкай дзейнасці беларускія згуртаванні апынуліся без падтрымкі. Дзеля правядзення заняткаў па гісторыі, культуры і мове, працы нядзельнай дзіцячай школкі, вечарын і іншага збіраліся дзе толькі магчыма: у бібліятэках, на кватэрах, у маладзёжным нацыянальна-культурным цэнтры ўкраінцаў, нават у былым парткаме. Неаднаразова звярталіся наконт памяшкання да тагачаснага пастпрэдства, але там нават не жадалі і чуць пра існаванне ў Маскве нейкіх беларусаў. Праўда, пасля путчу 1991 года становішча змянілася. Дзякуючы звароту да Старшыні Вярхоўнага Савета сп. С. Шушкевіча Таварыства беларускай культуры, як галоўнае ўтварэнне маскоўскіх беларусаў, атрымала пакойчык з тэлефонам у будынку пастпрэдства. Адразу наладзіліся сувязі з беларускімі асяродкамі ў Санкт-Пецярбурзе, Алма-Аце, Чэлябінску, Майкопе, Вільні і іншых месцах. На дабрачынных пачатках ладзілі восеньскія Дзяды, угодкі Багдановіча, Купалаўскія вечарыны і іншае. На сходкі па аўторках сталі прыходзіць свядомыя беларусы не толькі з Масквы, але і з абшараў Расіі, СНД, самой Беларусі і нават з Амерыкі. Але, як высветлілася, гэта была толькі часовая адліга. У красавіку адабралі тэлефон і перадалі яго расійскім камерсантам, якія заставаліся ў будынку паўпрэдства (пастпрэдства было ператворана ў паўпрэдства), а выдзелены пакойчык сталі выкарыстоўваць як сховішча маёмасці (ужо болей за паўгода палова яго занята халадзільнікамі «Минск»). Неаднаразова нам даводзілася чуць у гэтай установе нешта накшталт такога: «Много шума от этих белорусов», «Ходят тут всякие», нават прапановы наконт абвяшчэння дзяржаўнай мовай на Беларусі ўкраінскай ці рускай. Дарэчы, у прадстаўніцтве не знайшлося чалавека, здольнага нагаварыць тры дзесяткі слоў па-беларуску на магнітафон супрацоўнікаў Інстытута інфарматыкі РАН. Таму за гэтым, а таксама за ўзорам герба, гімна і сцяга яны мусілі звярнуцца ў Таварыства беларускай культуры. Трэба сказаць і аб матэрыяльным становішчы дыяспары. Сярод 14 культурных таварыстваў Масквы ад былых саюзных рэспублік — беларускае самае беднае. Справа ў тым, што ўсе пасольствы і паўпрэдствы, за выключэннем нашага, беларускага, адчыняюць дзеля сваіх дыяспар нацыянальна-культурныя цэнтры, або дбаюць аб гэтым, дапамагаюць усім, чым магчыма. Таму ў іх ёсць і бібліятэкі, і памяшканні, і школы, і свае выданні, і транспарт, і шмат што іншае. У беларусаў жа — анічога, пры поўным неразуменні важнасці гэтай справы з боку паўпрэдства. І гэта ў той час, калі ў Расіі жыве каля двух мільёнаў беларусаў. Штогод, з дазволу мясцовых улад, мы святкуем Купалле на рацэ Пахры пад Падольскам разам з культурнымі таварыствамі Літвы, Латвіі, Эстоніі. Неаднаразова гэтае свята паказвала расійскае тэлебачанне. І заўсёды на гэтым свяце прысутнічала кіраўніцтва пасольстваў прыбалтыйскіх рэспублік. Адпаведна, у прыбалтыйскіх дыяспар ёсць усё: «твар», грошы, транспарт, выязныя буфеты, нацыянальныя кашулі і іншае. У беларусаў, акрамя падрыхтоўкі за свой кошт, — нічога. Колькі ні запрашалі супрацоўнікаў прадстаўніцтва — толькі палохаюцца беларускіх святаў і саміх беларусаў.

На нашу думку, у будучым пасольстве павінны працаваць такія беларусы, якія шануюць родную зямлю і яе народ. Беларускае пасольства ў Маскве павінна клапаціцца аб беларускай дыяспары ў Расіі, дапамагаць культурнаму, духоўнаму развіццю расійскіх беларусаў, а не іх асіміляцыі. Неабходна стварыць у Маскве беларускі нацыянальна-культурны цэнтр, які б займаўся абаронай правоў расійскіх беларусаў, культурнымі сувязямі з Бацькаўшчынай, зборам інфармацыі пра спецыялістаў-беларусаў, якія маглі б быць карыснымі сваёй Радзіме (а іх, дарэчы, шмат), выдаваў бы газету для расійскіх беларусаў. Пасольства павінна дапамагчы арганізацыі гандлю беларускай кнігай у Маскве, падпісцы на беларускія перыядычныя выданні, а таксама адчыніць беларускую школу пры пасольстве, як гэта робяць пасольствы іншых краін.

**Г. ЛЕХ, А. БУКА, А. ДРАЯНКОЎ, А. САБАЛЕЎСКІ, І. ПАЎЛОЎСКІ, С. ПАПОЎ, А. КУРЫС, Л. ЦАГЕЛЬНІКАЎ, Я. КУРЫС, А. МАКАГОН, В. ІВАНОЎ, А. ЖЫЛКІН, актывісты беларускай дыяспары Масквы.**

# ЧАС ПАКАЗАЎ...

## З нагоды калектыўнага ліста жанчын-маці пісьменніцы Святлане Алексіевіч

**«Некаторыя кнігі працяты такім болем, што іх амаль немагчыма чытаць... «Цынкавыя хлопчыкі» Святланы Алексіевіч — адна з такіх кніг. Загаловак нарадзіўся са страшэннай падрабязнасці вайны — загінуўшых салдат вярталі дамоў у цынкавых трунах.**

**Апублікаваныя ў 1990 годзе «Цынкавыя хлопчыкі» набылі ў Савецкім Саюзе эфект выбухнуўшай бомбы...**

**Сведчанні салдат аб сваіх і чужых жорсткасцях змешаны з рыданнямі маці і жонак... Аб'ёмісты спектр і выразнасць гэтых галасоў, іх шчырасць і непадробнасць, іх высокая эмацыянальнасць робяць кнігу надзвычай уражлівай, яна літаральна абпальвае душу...**

**С. Алексіевіч стварыла нешта большае, чым кнігу аб афганскай вайне. Гэтая кніга стала люстэркам, у якім адбіліся ўсе жахі гэтай таямнічай, невядомай для большасці савецкіх людзей вайны. Яна лепшая з заходніх кніг на гэтую тэму, якія я прачытаў».**

**Пітэр Крыстоф. Газета «Дзэ эйдж», Аўстралія.**

**«...З гэтай жа мэтай вы паехалі ў сваю трохдзённую камандзіроўку ў Афганістан, каб заявіць потым «Я там была». І нам даводзіцца шкадаваць, што там вас ахоўвалі нашы хлопчыкі. Лёс павінен быў распарадзіцца інакш, трэба было трапіць вам у рукі душманаў, каб вы адчулі сапраўдную іх гасціннасць...»**

**З ліста маці загінуўшых у Афганістане салдат пісьменніцы С. Алексіевіч. Газета «Звязда». Ліпень 1992 г.**

Мне пашанцавала прачытаць першыя раздзелы «Цынкавых хлопчыкаў» Святланы Алексіевіч яшчэ ў рукапісе і гэта, помню, каштавала мне некалькіх бяссонных начэй. Аўстралійскі рэцэнзент параўноўвае эфект публікацыі гэтага твора з эфектам выбухнуўшай бомбы. Амаль так. З той толькі папраўкай, што к канцу васьмідзесятых гадоў краіна ўжо поўнілася чуткамі аб тым, што афіцыйна аб'яўленая інтэрнацыянальная, ледзь не гуманітарная дапамога братняму (!) афганскаму народу на самай справе абярнулася вялікімі чалавечымі стратамі ў «абмежаваным кантынгенце савецкіх войск». Тады я ўпершыню пачуў аб звязанай з гэтай вайной жахлівай падрабязнасці — загінуўшых у «Афгане» хлопцаў транспартавалі на радзіму ў запаяных цынкавых трунах, каб схаваць сапраўдную колькасць ахвяр, пахаванні іх праводзіліся ледзь не ўпотайкі, а каб не прыцягвалі да сябе лішняй увагі, магілы размяшчалі далёка адна ад адной — так яны хутчэй павінны былі згубіцца ў агульным масіве магілак.

На Паўночных могілках у Мінску, дзе пахаваны мае бацькі, кожны раз, ідучы адведаць родныя магілы, спыняюся па дарозе ля гранітнага помніка з выявай маладзенькага прыгожага салдата ў форме дэсантніка і кароткім радком пад ёй: «Загінуў смерцю героя пры выкананні баявога задання». І ні слова аб тым, дзе гэта здарылася.

І ўсё-такі — так, публікацыя «Цынкавых хлопчыкаў» сарвала жалезную заслону з многіх таямніц «невядомай» вайны, якія пільна ахоўваў камуністычны лад. Менавіта са сведчанняў персанажаў кнігі вымалёўвалася крайняя непапулярнасць афганскай вайны ў прымусова пасланых на яе маладых салдат ды і ў значнай часткі афіцэрскага корпуса. І мо самае галоўнае — кніга паказала сапраўдны твар гэтай вайны з яе невыноснымі пакутамі, крывёю, смерцю, маной, што так кантраставалі з карцінай, якую малявала ўсе 10 гадоў афіцыйная прапаганда. Ці не ўпершыню ў літаратуры пра «нашых у Афгане» прагучала такая агаленая праўда і пра гора, якое прыйшло ў тысячы сем'яў, што зведалі горыч страты сваіх родных у далёкіх, чужых гарах.

Некалі Аляксандр Твардоўскі азваўся аб фінскай кампаніі 1940 года паэтычным радком: «На той войне не знаменитой...» Які ж эпітэт можна ўжыць у дачыненні да вайны «гэтай»? Таксама «не знаменитой»? Каб яна была адметная толькі гэтым. Не, афганская авантура была яшчэ і злачыннай, гэта была вайна з народам, які не хацеў скарацца іншаземным захопнікам. У лісце маці да С. Алексіевіч, дзе яго аўтаркі шмат гавораць пра гора, якое ім, страціўшым сыноў, давялося перажыць, не вымаўлена, дарэчы, ніводнага слова пра не меншыя пакуты афганскіх маці, якія таксама страцілі сваіх дзяцей. Ці мо мацярынскае сэрца не ўсюды баліць аднолькава?

Пра ўсё гэта я гавару не ў папрок аўтарам ліста да пісьменніцы. Разумею, што за іх акцыяй стаяць людзі, якія з апошніх сіл чапляюцца за ўсё, што ўвасабляла ў іх вачах «магутнасць і веліч» былой камуністычнай імперыі.

Хто не помніць тэлеперадач з другога з'езда народных дэпутатаў СССР, дзе ўстроілі аўтадафэ вялікаму гуманісту, акадэміку Сахараву, які першы ўзняў свой голас супраць савецкай інтэрвенцыі ў Афганістане? Там, на з'ездзе, на нядаўна вернутага з горкаўскай ссылкі нобелеўскага лаўрэата ліліся патокі бруду разам з абвінавачваннямі «ў здрадзе», «паклёпе» на савецкую армію. Сярод тых, хто са з'ездаўскай трыбуны слаў праклёны на галаву Андрэя Дзмітрыевіча, былі і дэпутаты-«афганцы», дэпутаты-жанчыны. Да пары да часу не хацелі «засвечвацца» іх сапраўдныя натхніцелі, той жа маршал Ахрамееў, старшыня КДБ Кручкоў. Яны моўчкі сядзелі ў зале пасяджэнняў з'е да. Але калі тэлеаб'ектыў раптам выхопліваў іх твары, відно было, як іх вусны крывіць змяіная ўсмешка, як радуюцца яны здзекам са славутага вучонага-гуманіста, якога б яны, калі б іх воля, з велізарнай асалодай пасадзілі б зноў за краты.

**Святлана Алексіевіч расказвала мне, што ўсю сілу грознага генеральскага подыху адчула пасля публікацыі ў «Комсомольской правде» ўрыўкаў з «Цынкавых хлопчыкаў». Адразу на публікацыю адгукнулася з грубым вокрыкам газета Міністэрства абароны «Красная звезда», а за ёй яе малодшая сястра газета Беларускай ваеннай акругі «Во славу родины». Генералы дзейнічалі выпрабаваным, але ад таго не менш подлым спосабам, вырашыўшы дэзавуіраваць сведчанні персанажаў кнігі С. Алексіевіч іх уласнымі вуснамі. У тую ж «Комсомольскую правду» шлецца ліст маці загінуўшых у Афганістане сыноў, якія адмаўляюцца ад сваіх ранейшых аповядаў (дарэчы, скрупулёзна запісаных пісьменніцай на магнітную стужку).**

**Як, скажыце, ахарактарызаваць дзеянні палітыканаў пэўнай афарбоўкі, якія дзеля дасягнення сваіх мэт здатныя на ўсё, нават на бессаромную эксплуатацыю мацярынскіх пачуццяў?**

І вось праз колькі часу пасля той атакі на афганскую кнігу С. Алексіевіч — атака новая. Зноў нехта збіраў подпісы пад «лістом» са зместам, якому бракавала і сэнсу, і элементарнай логікі. Што, акрамя, мякка кажучы, недаўмення, могуць выклікаць наступныя радкі «пасланя», дзе ўсё пастаўлена з ног на галаву: «Мы цвёрда перакананы, што яна (С. Алексіевіч. —**М. З.**) адна з тых, хто пасылаў туды (у Афганістан.—**М. З.**) нашых дзяцей, спрыяў замоўчванню сапраўдных фактаў, падзей, чакаў, у які бок падзьме вецер, каб апраўдаць свой удзел у злачынстве...»

Вось так, ні больш, ні менш.

Чытаў гэты ліст і думаў: як трэба было затлуміць галовы няшчасным жанчынам, каб яны паставілі свае подпісы пад кашчуннымі словамі, працытаванымі на пачатку гэтых нататак — шкадаваннем, што пісьменніца вярнулася з Афганістана жывая...

Дарэчы, ліст жанчын, адрасаваны Святлане Алексіевіч, быў адразу дружна растыражыраваны многімі газетамі — ад адыёзнай «Мы и время» да рэспектабельнай «Звязды», якая ў невялікай прадмоўцы да «ліста» дэкларавала свой нейтралітэт у «спрэчцы» яго аўтараў з пісьменніцай. «Час пакажа, — адзначалася ва ўрэзцы, — хто з іх правы». Час, шаноўныя спадары, паказаў, усё расставіў па месцах. Але некага (няцяжка здагадацца — каго) па-ранейшаму ўсё яшчэ не пакідае надзея павярнуць час назад. Дарэмныя спробы. Шкада толькі, што ў гэтыя непрыгожыя палітычныя гульні ўдалося ўцягнуць жанчын, з якімі так жорстка абышоўся лёс.

**«У «Цынкавых хлопчыках» сведчаць аб перажытым, аб сваім вопыце пакут салдаты і афіцэры, інваліды і ўдовы, сёстры міласэрнасці і маці загінуўшых. Праз мантаж асобных чалавечых аповядаў узнікае аб'ёмная панарама гісторыі дзяржавы, якая пацярпела маральнае банкруцтва, таму што яе вернападданыя выхоўваліся на сляпым паслухмянстве і фальшывых ідэалах».**

**Часопіс «Шпігель» № 10, 1992 год. Германія.**

Што тут дадаць!

**Міхась ЗАМСКІ.**

БЕЛАРУСКАЕ ЗАМЕЖЖА

## ДЛЯ ДЗЕТАК-МАЛАЛЕТАК

Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку выпусціла кнігу Віктара Шведа «Вясёлка» — своеасаблівае выбранае адзінага паэта ў Польшчы, які пастаянна піша для дзяцей па-беларуску. Нашы дзеці маглі пазнаёміцца з яго творчасцю па зборніку «Дружба», што пабачыў свет у выдавецтве «Мастацкая літаратура» яшчэ ў 1976 годзе.

«Вясёлку» ж склалі некалькі зборнікаў, яна складаецца як бы з дзвюх самастойных кніжак. Першая з іх — «Падляшша». Пачынаецца яна з запрашэння «Любі, браток, родны куток». Маленькі герой з гонарам гаворыць:

**Я нарадзіўся беларусам,**<br>**Беларусам буду жыць!**<br>**Мову родную вучуся**<br>**Шанаваць, цаніць, любіць!**

Наступныя падраздзелы кніжкі — «Прыроду беражы, прыродай даражы!», «Бабулі, дзедкі і малалеткі», «Бусел верны Беларусі».

Другая кніжка — «Смяшынкі». У ёй таксама свае падраздзелы: «Навука не прынука», «Такія ж дзеці ва ўсім свеце», «Жыццё заўсёды нясе прыгоды»...

В. Швед прымае той дыдактызм, які дазваляе прывіваць юным чытачам павагу да ўсяго беларускага, вучыць любіць наваколле, зямлю, людзей на ёй.

**А. В.**

## БЕЛАРУС — УСЮДЫ БЕЛАРУС

«Бібліятэчка Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа», якая выходзіць у Беластоку, папоўнілася шостай кніжкай. Ёй стаў паэтычны зборнік Яна Чыквіна «Кругавая чара».

Аўтар дэбютаваў у 1969 годзе кнігай «Іду», праз год выйшла «Святая студня», у 1977 годзе — кніга «Неспакой». У прадмове да яе адзначалася: «Чыквінскі верш... З ім трэба размаўляць у цішы, адагнаўшы ад сябе вісклівае ганьё штодзённшчыны, тэлевізарна-газетныя эмоцыі. Каб аднавіць сябе, не здрабнець!»

Такая ацэнка яшчэ больш стасуецца да зборніка «Кругавая чара» (дарэчы, заўважым, што кніга цудоўна выдадзена, з каляровымі малюнкамі, партрэтам аўтара, факсіміле аднаго верша). Я. Чыквін запрашае ў вершах задумацца над хуткаплыннасцю часу, пазбавіцца ўсяго другаснага, выпадковага. Праграмным успрымаецца верш «Крык начной савы»:

**Што ёсць быццё! Што — чалавек! Што — Бог!**<br>**Чаму нікому нельга лёсу перайначыць!**<br>**Не адсумуе смутак нашых усіх зямных трывог —**<br>**З вачэй злятае белы голуб плачу.**

Пытанне за пытаннем: «А чым свабода ёсць? — Для розуму, для сэрца й рук — цудоўны божы дар? Пыхлівы чалавечы мык? Чаму ўсё жыццё свой камень пхаем пад гару? Адгадкі ў свеце, мабыць, ёсць... Але не выкажа язык». Адказ на гэтыя пытанні ёсць у іншых творах кніжкі, што напісаны чалавекам, неабыякавым да жыцця. Да спрадвечных ісцін, што такое дабро, зло, справядлівасць, Я. Чыквін прыходзіць праз сумненні, развагі, пошукі свайго месца на зямлі і самога сябе.

Адным словам, лірычны герой паэта — наш сучаснік, беларус, які, дзе б ні жыў, мае свой твар, свой нацыянальны характар.

**А. М.**

**Юры Туронак, адзін з найбольш вядомых даследчыкаў навейшай гісторыі Беларусі, нарадзіўся ў 1929 годзе ў мястэчку Дукштас, што на поўдзень ад Дзвінска, у беларускай сям'і. Гадаваўся ў Вільні, дзе бацька працаваў лекарам. Пачатковую адукацыю атрымаў, навучаючыся ў польскай, потым у літоўскай школе. Скончыў Віленскую літоўскую гімназію. У Польшчы, у Галоўнай школе планавання і статыстыкі, атрымаў вышэйшую эканамічную адукацыю. Шмат гадоў працаваў як журналіст. Пачынаючы з 1956 года, выступае ў друку Польшчы і Беларусі з публікацыямі, прысвечанымі праблемам гісторыі і культуры. Аўтар кнігі «Беларусь пад нямецкай акупацыяй». Жыве і працуе ў Варшаве.**

**Шмат каму думкі, выказаныя доктарам Туронкам, могуць падацца спрэчнымі. Але трэба памятаць: ягоныя погляды на гісторыю Беларусі фармаваліся на падставе вывучэння дакументаў, практычна недаступных для вучоных у БССР. Гісторык Туронак ніколі не адчуваў уплыву на сябе афіцыйнай савецкай гістарыяграфіі ці ўціску з боку партыйных органаў. Ён, грамадзянін Польшчы, нават у самыя цяжкія гады вайсковага стану мог вывучаць гісторыю свайго народа, не адчуваючы ідэалагічных перашкод, не імкнучыся стварыць ці замацаваць вобраз ворага. Напісаная ім праца па гісторыі Беларусі ў другой сусветнай вайне — першая спроба пазбаўлення ад стэрэатыпаў. Можна падзяляць ці не падзяляць ягоныя думкі, але пазнаёміцца з імі варта.**

**У. П.**

# Юры ТУРОНАК: «ІВАНОЎСКІ БЫЎ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ ДЗЕЯЧАМ...»



## Маналог гісторыка

...МАЯ РАБОТА доўгі час не мела нічога агульнага з гісторыяй, але гэтым я цікавіўся заўсёды. Пачаў, бадай, з вывучэння гісторыі народнай асветы на Беласточчыне. Асабліва мяне цікавіў перыяд савецкай улады (1939—1941 гады) ды час нямецкай акупацыі. Тады мясцовыя людзі самі вызначалі мову навучання сваіх дзяцей у школах. Таму, напрыклад, у Бельскім павеце існавалі і беларускія, і польскія школы — усё залежала ад пажаданняў насельніцтва, немцы ў гэтую справу не ўмешваліся.

Школы, школы... Менавіта гісторыя школьніцтва ў 30—40-я гады выклікала маю цікавасць да вывучэння іншых аспектаў навейшай гісторыі Беларусі. Я сабраў аграмадны матэрыял, але доўгі час яго не выкарыстоўваў, таму што не было ніякай надзеі на выданне.

Недзе ў палове сямідзесятых гадоў я пачаў цікавіцца постаццю Вацлава Іваноўскага. Я ведаў, што кнігі, выдадзеныя з ягоным удзелам яшчэ да першай сусветнай вайны, шырока выкарыстоўваліся ў беларускіх школах. Але рэч у тым, што савецкія публіцысты ў сваіх выказваннях ацэньвалі яго вельмі адназначна і вельмі адмоўна. Калі я пабачыў, што адмоўна яго ацэньваюць не толькі савецкія, але і іншыя беларускія даследчыкі (напрыклад, адносіны да яго хадэцыі былі вельмі стрыманыя, таксама і левых, КПЗБоўскі прыбудовак), дык гэта мяне яшчэ больш штурхала да новых доследаў.

Пачалося з таго, што я знайшоў архіўную дакументацыю аб удзеле Іваноўскага ў беларускай канспіратыўнай арганізацыі часоў другой сусветнай вайны. Тая арганізацыя вяла перагаворы з Галоўным камандаваннем Арміі Краёвай. І я адразу падумаў: добра, які ж ён фашыст, калі ён вядзе перагаворы з яўнымі ворагамі фашызму? У выніку з'явілася апрацоўка, якую я назваў «Беларускае пытанне ў палітыцы лонданскага лагера» (у час вайны лонданскім лагерам называўся эміграцкі ўрад Польшчы ў Лондане, ягоныя падпольныя прадстаўніцтвы. Галоўнае камандаванне АК, падпольны парламент). Атрымалася, на мой погляд, цікава. Тую распрацоўку я перадаў у Інстытут гісторыі Польскай акадэміі навук прафесару Ласоўскаму. Ён гэтым вельмі зацікавіўся, прапанаваў апублікаваць матэрыялы ў друку. Ад яго ж я пачуў: інстытут цікавіцца польска-літоўскімі, польска - украінскімі ды польска-беларускімі ўзаемаадносінамі ў час апошняй вайны. Украінская і літоўская тэмы былі даволі грунтоўна распрацаваныя, затое беларуская заставалася амаль недаследаванай. Быў адзін дактарант, які сядзеў над гэтай тэмай два гады і ўрэшце адмовіўся — сказаў, што ніякіх адносін не было.

Тэкст, які я прынёс, у інстытуце палічылі вельмі цікавым і спыталі: гэта толькі малы кавалак цэлай праблемы, і таму ці не захачу я распрацаваць цэлую дысертацыю, цалкам прысвечаную пытанню нямецкай акупацыі Беларусі? Але ж распрацоўка гэтай тэмы — работа на некалькі год для цэлага інстытута, і таму я прапанаваў сваю: «Акупацыйная палітыка на Беларусі». Мяне аспрэчылі, заявіўшы: ці можна весці размову пра нейкую асобную палітыку ў адным рэгіёне, калі яна была аднолькавай паўсюль на Усходзе? У найлепшым выпадку — гэта матэрыял для артыкула. Я быў вельмі зацікаўлены праблематыкай акупацыі, не хацеў губляць магчымасці працаваць у архівах і таму згадзіўся з прапанаванай фармулёўкай, але папярэдзіў: калі мяне будуць крытыкаваць за тое, што ў працы няма згадак пра агародніцтва, ці тэатральнае мастацтва, ці жыдоўскае пытанне, ці партызанскі рух, дык хай мяне бароняць, бо згадаць аб нечым я магу толькі пры ўмове, што яно патрэбна для раскрыцця галоўнай тэмы.

ГЭТАЯ ПРАЦА пачалася ў 1982 годзе. Я шмат працаваў у архівах, праўда, не карыстаўся менскімі архівамі — у той час такой магчымасці проста не існавала. Але я знайшоў шмат нямецкіх архіваў. Іх захапілі амерыканцы ў 1945 годзе, змікрафільмавалі і прадавалі копіі ўсім, хто меў долары і быў зацікаўлены справай. Паколькі Польшча была зацікаўлена, яна купіла даволі багатыя калекцыі, напрыклад, увесь змікрафільмаваны архіў міністэрства Розенберга — гэта 106 ролікаў, у кожным каля тысячы кадраў — 106000 старонак. А архіў рэйсхфюрэра СС і паліцыі налічвае тысячу ролікаў, з чаго Польшча купіла 500 — паўмільёна старонак. Гэта быў вельмі багаты матэрыял. Акрамя таго, я меў часопісы, кнігі, савецкія публікацыі дакументаў. Матэрыялу было дастаткова, і ў выніку атрымалася кніга, прысвечаная выключна акупацыйнай палітыцы Нямеччыны на Беларусі. Да выканання гэтае працы я меў ступень магістра эканамічных навук. У 1986 годзе я абараніўся, атрымаўшы навуковую ступень гісторыка. Трохі пазней на падставе дысертацыі польскім выдавецтвам ВЭРС была надрукавана кніга «Беларусь пад нямецкай акупацыяй». Выдалі яе без аўтарскай карэктуры, з тэхнічнымі хібамі, але бяда невялікая, бо неўзабаве з'явіцца другое польскае выданне, больш дасканалае і добра ілюстраванае. Магчыма, выйдзе і беларускае выданне — пераклад ужо зроблены.

Усё гэта заняло шмат часу, і таму з пачатку 80-х гадоў я «замарозіў» працу над манаграфіяй пра Іваноўскага. Усё спынілася на этапе, калі я ўжо меў сабраны матэрыял: унікальны матэрыял, меў праведзеныя размовы з людзьмі, якія цяпер ужо адышлі, але ўсё гэта было ўжо зафіксавана, усё ляжала і чакала лепшых часоў. Пасля таго, як была скончана манаграфія па праблемах акупацыі, я пачаў рыхтаваць новую — пра Вацлава Іваноўскага. Але яшчэ раней былі падрыхтаваныя некалькі матэрыялаў аб пачатку беларускай выдавецкай дзейнасці — яшчэ да «Нашай Нівы», да рэвалюцыі 1905 года. У вас гэтым займаўся Сцяпан Александровіч. Але ўсё патрабавала праверкі, пашырэння.

Гэта быў час, калі Іваноўскі ствараў у Пецярбурзе Беларускую рэвалюцыйную партыю, потым — Круг народнай асветы. Гэта была цікавая справа: ён любіў дзейнічаць у вузкім коле даверанных асоб, без вялікай рэкламы. Яны — Вацлаў Іваноўскі, студэнт Тэхналагічнага інстытута ў Пецярбурзе, Марыян Фальскі, студэнт Політэхнічнага інстытута ў Варшаве, Сцяпан Багушэўскі — студэнт Ягелонскага універсітэта ў Кракаве — стварылі тайную выдавецкую суполку. Іваноўскі дастаў грошы, арганізаваў тэксты, Фальскі пераклаў іх з польскай мовы на беларускую, а Багушэўскі вывез тэксты і грошы ў Кракаў і там, у Аўстра-Венгерскай манархіі, надрукаваў. І потым праз «зялёную граніцу» — нелегальна — яны шмуглявалі ўсе гэтыя кніжкі ў Беларусь.

Потым узнікла пытанне беларускага лямантара — гэта ўжо 1906 год. Яго выдала суполка «Загляне сонца і ў наша аконца», арганізатарам і старшынёй якой быў Іваноўскі, а не Шыпіла, як аб гэтым вельмі часта ў вас пісалася. Пісалася таму, што Іваноўскі быў «вораг народа», страшны чалавек. Але вынікі ягонай дзейнасці былі, і яны адабраліся. Існавала няпраўдзівая версія, што кіраўніком суполкі быў Шыпіла. Некаторыя пісалі, што фактычным кіраўніком суполкі быў Шыпіла, значыць, фармальным быў нехта іншы... Тым часам Шыпіла быў вельмі заняты. Ён меў вялікую педагагічную работу, акрамя бібліятэкі, у якой працаваў. У дадатак, калі ўзнікла справа канфіскацыі Багушэвічавых «Смыка» і «Дудкі» і пагроза завісла над «Жалейкай» Купалы, дык ён уцёк з гэтай суполкі. Ён выкінуў яе са свайго памяшкання, і вярнуўся пазней, калі ўсё ўжо супакоілася.

І тут узнікла справа буквара. Буквар... Усе кніжкі, якія выпусціла суполка, мелі або аўтара, або былі падпісаны псеўданімам, тым часам лямантар быў увогуле ананімны. Я высветліў: распрацоўкай і апрацоўкай яго заняўся сам Іваноўскі. Ён зрабіў лацінічную версію. Кастравіцкі зрабіў кірылічны варыянт, але гэта было толькі перапісванне. Вельмі цікава, што ў канцы буквара ёсць сказы для чытання, ніяк не звязаныя паміж сабой, накшталт «Котка грэецца на сонцы». І сярод іх уплецены адзін — але вельмі цікавы: «Яны бяруцца за гэта дзела і думаюць, што яно ім удасца». Хто «яны»? Гэта — Іваноўскі і Кастравіцкі — Карусь Каганец, якія рыхтавалі той буквар. Выдавецкая дзейнасць — другі перыяд жыцця Вацлава Іваноўскага.

Потым — палітычная дзейнасць. Адразу ўзніклі нейкія непаладкі з Луцкевічамі. Я гэтым мала займаўся, але само пытанне вельмі цікавае. Чаму, напрыклад, БСГ не мела аднаго цэнтральнага камітэта, а толькі два краёвыя — віленскі і менскі? Адзіны цэнтральны камітэт узнік толькі на Каляды 1905 года.

У 1908 годзе Іваноўскі выехаў у Мюнхен і там, у Політэхнічным, зрабіў доктарскую дысертацыю аб вырошчванні цукровых буракоў на беларускіх глебах. Вярнуўся ў 1909 годзе і быў дацэнтам у Тэхналагічным інстытуце, выкладаў у Пецярбургскім жаночым Політэхнічным інстытуце. Выкладчыцкай работай і выдавецкай дзейнасцю ён займаўся да сярэдзіны 1913 года, пакуль не пераехаў у Вільню. Суполка, якой на той час кіраваў ужо Шыпіла, памалу занепадала, выдавала толькі раней апрацаваныя тэксты. Затое Іваноўскі разам з Купалам прыехалі ў Вільню і адкрылі там беларускае выдавецкае таварыства. За не цэлыя два гады яны зрабілі вялікую работу. Усё спынілася з пачаткам першай сусветнай вайны.

У КНІЗЕ, якая неўзабаве мае выйсці, раздзел пра падзеі часоў вайны называецца «З Расеяй ці з Польшчай?» Звычайна Іваноўскага ўяўляюць страшным ворагам Расеі. Тым часам ён прытрымліваўся поглядаў зусім адваротнага напрамку. Ён арыентаваўся менавіта на Расею, ён лічыў, што расейскі рынак — неабходная ўмова эканамічнага развіцця Беларусі, што свае прамысловыя вырабы Беларусь будзе прадаваць не на Захад, але якраз туды — на Усход. Доўгі час ён арыентаваўся на Расею, нават на Леніна, на бальшавікоў. Цікава, што ў 1917 годзе, пасля Лютаўскай рэвалюцыі, ён вельмі хутка страціў надзею на магчымасць супрацоўніцтва з урадам Керанскага. Уявіце сабе: ужо пад канец нямецкай акупацыі, калі ўрад БНР і Рада БНР эвакуаваліся ў Гародню, ён, міністр асветы БНР, застаўся ў Менску на тое, каб з камуністамі Жылуновіча стварыць кааліцыйны беларускі савецкі ўрад — кааліцыю камуністаў і сацыял-дэмакратаў. Прыйшлі бальшавікі, і праз нядоўгі час і Жылуновіча, і Іваноўскага арыштавалі. Лёс Жылуновіча вядомы. У адрозненне ад яго Іваноўскі быў толькі інтэрніраваны. Яго трымалі ў Смаленску. У гэты час ягоны брат Юры быў міністрам ва ўрадзе Польшчы — спачатку прамысловасці і гандлю, а потым — працы і грамадскай апекі. Так ці інакш, ён мог забраць Вацлава ў Варшаву, неяк уладкаваць, каб той мог свабодна працаваць і нават дзейнічаць на беларускай ніве. Але пасля вызвалення Іваноўскі замест таго, каб ехаць у свабодную Варшаву, вяртаецца ў бальшавіцкі Менск. Нядаўна ваш «ЛіМ» апублікаваў цікавы здымак да артыкула пра Язэпа Гладкага. На здымку — першыя беларускія курсы Педагагічнага інстытута ў Менску. Вясна, 1919 год, і на гэтым здымку — Іваноўскі. Калі вясной 1919 польскія легіёны пайшлі на ўсход, іх віталі розныя беларускія арганізацыі, у тым ліку і Тарашкевіч. Арыентацыя беларускіх дзеячаў на Польшчу была выразнай. Але сярод іх не было Іваноўскага. Для мяне гэта была надзвычай цікавая справа: дзе прапаў Іваноўскі? Я яго шукаў і ў Вільні, і ў Варшаве, і ў Гародні — няма нідзе. Толькі потым аказалася, што ён сядзеў па другі бок фронту — у бальшавікоў.

Ягоныя погляды карэнным чынам змяніліся пасля таго, як Ленін падчас перагавораў паміж Савецкай Расеяй і Польшчай у канцы 1919 — пачатку 1920 года некалькі разоў інструктаваў Мархлеўскага, што з-за Беларусі разыходжанняў быць не можа. Калі палякі хочуць — яны могуць мець усю Беларусь. Ленін прапанаваў вечную граніцу на Бярэзіне. Для Іваноўскага гэта быў вялікі шок. Ён зразумеў, што той, на каго ён арыентаваўся, абсалютна не цікавіцца беларускім пытаннем, гатовы падзяліць Беларусь, пакідаючы за сабой яе ўсходнюю частку і аддаючы Польшчы заходнюю. Развалілася ўся палітычная канцэпцыя Іваноўскага. Ён быў гатовы супрацоўнічаць з кожным, хто мог дапамагчы стварыць беларускую дзяржаўнасць і захаваць тэрытарыяльную цэласнасць.

Яго арыентацыя на Пілсудскага? Так, але яна была даволі своеасаблівай. Найбольшыя закіды яму робяць, зважаючы на перагаворы, якія ён вёў у сакавіку 1920 года ў Менску. Калі дакладна, дык перагаворы пачаліся не ў сакавіку, а на пачатку лютага. Пілсудскі прыехаў у Вільню і нехта там у яго запытаў: што ён думае пра Беларусь? Той адказаў, што не хоча нават думаць пра гэтую беларускую фікцыю — так ён назваў беларускае пытанне. Потым да яго прыехаў Іваноўскі.

Думаю, Пілсудскі і Іваноўскі былі знаёмыя асабіста. Брат Вацлава Юры быў ППСаўцам і блізкім супрацоўнікам Пілсудскага.

Прыблізна ў сярэдзіне лютага ў Вільні ўзнікла справа, якую гісторыкі не любяць узгадваць. Польскія гісторыкі любяць падкрэсліваць федэрацыйную канцэпцыю Пілсудскага. Гаворыцца, што Пілсудскі імкнуўся стварыць такі блок дзяржаў, які ўключаў бы Польшчу, Літву, Беларусь ды Украіну, хай, нават, пад польскім патранатам, які мог бы супрацьставіцца і Расеі, і Нямеччыне. Але ў творах Пілсудскага гэтай канцэпцыі няма, аб гэтым ён ні разу не выказваўся. Я не ведаю, на якой падставе польскія гісторыкі так мяркуюць. Затое ведаю: да сустрэчы з Іваноўскім, да паловы лютага 1920 года, у Польшчы была моцная апазіцыя федэрацыйнай палітыцы. Палякі не хацелі федэрацыі, яны хацелі анексаваць тое, што ўдасца. А Іваноўскі схіліў Пілсудскага да перагаво-

(Працяг на стар. 12).

**Гэтая публікацыя, несумненна, выкліча неадназначныя ацэнкі чытачоў, найперш старэйшага ўзросту. Апошнім імя Вацлава Іваноўскага знаёма толькі з адным азначэннем: фашысцкі паслугач. А тут — штосьці зусім іншае: нацыянальны дзеяч. Нацыянальны! Значыць, патрыёт, які любіў Бацькаўшчыну і дбаў аб яе будучыні і шчасці! Адно з другім несумяшчальна! Хто адкажа! Мо хіба толькі асабісты трагічны лёс гэтага чалавека.**

**Прынамсі, хочацца спадзявацца, што погляд даследчыка з Польшчы (погляд збоку) дапаможа нам убачыць постаць Іваноўскага больш аб'ектыўна, без нашых звычных і ўсё яшчэ не скінутых цалкам ідэалагічных шораў.**

# САБАЛЕНКА З ВЁСКІ... САБАЛІ

**85 год з дня нараджэння Рамана САБАЛЕНКІ**



У роднай яму вёсцы Сабалі Брагінскага раёна пачыналіся першыя жыццёвыя універсітэты будучага пісьменніка. Як кожны вясковы падлетак, Раман рана навучыўся араць, баранаваць, хадзіць з касой, цаніць працу на зямлі. Павагу да кнігі, жаданне вучыцца перадаў яму бацька Карп Яўстратавіч, які быў даволі адукаваным чалавекам.

У канцы 20-х гадоў закончыў Р. Сабаленка Гомельскі індустрыяльна - педагагічны тэхнікум. Пазней вучыўся ў Гомельскім педагагічным інстытуце, стаў журналістам, пісьменнікам.

На 1928 год прыходзіцца пачатак яго літаратурнай дзейнасці. Да вайны спрабуе сілы ў паэзіі, напісаў паэму «Брагін». Пазней, у 50-ыя гады, выдаў два зборнікі вершаў: «З родных крыніц» і «Мая эстафета». Доўгі час (1930—1941) працаваў у абласной газеце «Палеская праўда». На яе старонках друкаваў замалёўкі, карэспандэнцыі.

Нямала цяжкіх дарог прайшоў у вайну. І ўсюды карэспандэнт Р. Сабаленка знаходзіў патрэбныя для байцоў словы, якія натхнялі, вялі ў бой.

Пасля перамогі Раман Карпавіч некаторы час працаваў рэдактарам газеты ў Баранавічах, а ў 1953 годзе пераехаў у Мінск. З 1957 па 1966 год працаваў намеснікам галоўнага рэдактара «Літаратуры і мастацтва».

Творчы шлях Р. Сабаленкі-празаіка пачынаўся з апавяданняў «Жменя зярнят», «Сустрэчы», «Блакітнае ззянне». Па сутнасці, яны сталі для пісьменніка школай творчага майстэрства. Асабліва плённымі былі ў яго 60-ыя гады. Адзін за адным друкуюцца ў гэты час яго вялікія празаічныя творы: «Каралінцы», «Іду ў жыццё», «З пройдзеных дарог», «Незамужняя ўдава», «Пад дажджом і сонцам», «Спатканне пасля разлукі» і інш. Аповесці «Юнацтва ў дарозе», «Выпрабаванне сталасці» і «Былое застаецца ў сэрцы» склалі трылогію «Іду ў жыццё».

Даследуючы рэчаіснасць, Р. Сабаленка звяртаецца ў большасці выпадкаў да жыцця вёскі, да вясковага побыту. І гэта невыпадкова. Пісьменнік ніколі не губляў сувязі з вёскай, якая яго ўзгадавала, часта прыязджаў у Сабалі, гутарыў з людзьмі.

Запомніўся Раман Карпавіч мне як чалавек шырокай эрудыцыі, багатых і глыбокіх ведаў, улюбёны ў прыгажосць роднага краю. Добры твар, уважлівы позірк мудрых вачэй, дасціпная ўсмешка, інтэлігентнасць, якая ішла, здаецца, з самой глыбіні душы. Актыўны, дзейсны па натуры, працавіты, Раман Карпавіч і ў кароткі час адпачынку ніколі не сядзеў без справы. Бываў ён частым госцем і ў мясцовай школе.

Аб вялікім і светлым пачуцці пісьменніка да роднай старонкі, да чалавека працы ўспамінае і сястра яго — Марыя Карпаўна. Прыемная ўсмешка кранае вусны гэтай ужо немаладой жанчыны, калі яна гаворыць пра брата. Відаць, што цёплыя адносіны не сцірае час.

— Хоць Раман пражыў у вёсцы мала, але на ўсё жыццё застаўся вясковым чалавекам. Здаецца, сама родная зямліца давала Раману натхненне і сілу, і нідзе так не працавалася яму, як тут, — расказвае Марыя Карпаўна. — Прывязанасць да родных мясцін, захапленне іх сціплай прыгажосцю, любоў да зямлі, працы на ёй брат захаваў у сваім сэрцы на ўсё жыццё. Мілейшага сэрцу кутка, чым наша Гомельшчына, не было для яго.

Р. Сабаленка з сялянскай дабротнасцю і памяркоўнасцю падымаў у сваіх творах разнастайныя праблемы. Значнае месца сярод іх займалі пытанні сэнсу жыцця, сувязі пакаленняў, значэння працы для чалавека. Яго творы не стаялі ўбаку ад вырашэння такой надзённай задачы, як духоўнае ўдасканаленне чалавека, фарміраванне ў ім высокіх маральных якасцей.

Многія з гэтых твораў грунтаваліся на добра вядомых пісьменніку фактах і здарэннях, бо матэрыялам для іх стала само жыццё. Так, калі ўпершыню была надрукавана аповесць «Каралінцы», яна даволі па-свойму ўспрымалася ў роднай вёсцы, дзе ўгадваліся кожная пейзажная замалёўка, кожны персанаж. Але ж «Каралінцы» — гэта не проста дасканалы злепак быту Сабалёў, а нешта большае, глыбокі роздум пра самую сутнасць чалавека, яго маральны стан, сэнс яго жыцця.

Аб усеперамагаючай сіле чалавечай працы сцвярджаў Р. Сабаленка ў такіх творах, як «Незамужняя ўдава», «Падарожжа ў Рослікі», трылогіі «Іду ў жыццё»... «Пакуль жыццё не скончыцца, датуль і чалавечая праца не будзе ведаць сабе ўпынку. Бо сама праца — гэта і ёсць жыццё. І нельга спыняцца ёй — бо спыніцца і жыццё», — гаворыць ён вуснамі аднаго з герояў. Глыбокі сэнс гэтых слоў асабліва балюча адзываецца сёння, пасля Чарнобыля. Не абмінуў горкі лёс і Сабалі. Ціхая, як могільнік, сёння гэтая вёска. Крапівай і хмызам амаль у рост чалавека пазарасталі двары. А палеткі... Божухна, у што ператварыліся багацейшыя на Палессі землі... Спынілася праца... спынілася і жыццё...

Творы Р. Сабаленкі напоўнены высокім грамадзянскім пафасам, любоўю да чалавека працы. Яны выхоўваюць у чытача павагу да вясковага ўкладу жыцця, прывязанасць да роднага бацькоўскага парога, да зямлі нашай.

**Л. КАСЦЮЧЭНКА,**
**ураджэнка вёскі Сабалі Брагінскага раёна, кандыдат філасофскіх навук, старшы выкладчык Гомельскага кааператыўнага інстытута.**

**ДУМКА ЧЫТАЧА**

# Канцлер Вялікага княства

Гэта загаловак нядаўна выдадзенай у Мінску кніжкі беларускага даследчыка І. Саверчанкі. Пафасна расказваецца ў ёй пра жыццё і дзейнасць выдатнага палітычнага дзеяча сярэднявечнай Беларусі Льва Сапегі. Коратка змест яе можам- перадаць словамі: Льву Сапегу беларускае ўра! ура! ура!

Кніжка гэта выклікала ў мяне, як у нас кажуць, змешаныя пачуцці. З аднаго боку, вельмі добра, што пішуцца і выдаюцца новыя працы, што пачынаем сіліцца грунтоўна даследаваць нашу забытую і заблытаную мінуўшчыну, адфальшоўваць яе. З другога боку, нядобра, што ўпадаем у крайнасці і зноў пачынаем карыстацца толькі двума колерамі: белым і чорным.

Вось гэтай памылкі не пазбегнуў і І. Саверчанка. Жыццё чалавека ці грамадства было і ёсць значна багацейшае, і паказаць яго толькі пры дапамозе двух колераў проста немагчыма. Тут патрэбны многія колеры і адценні іх.

А цяпер вяртаймася да кніжкі. У ёй Л. Сапега проста ідэал, бо і высока народжаны, і багаты, і слаўны, і таленавіты, і моцна вучоны, і выдатны юрыст, паліглот, дыпламат і палітык, каханы і кахаючы муж і бацька, і ўрэшце беларус-патрыёт. Адным словам, самыя «суперлятывы», а заган і памылак ніякіх. Аж страх падумаць аўтару, што сталася б з Вялікім княствам Літоўскім і беларускай нацыяй, калі б не было ў іх такога выдатнага дзяржаўнага мужа, як Л. Сапега!

А ў маю бедную галаву назойліва ціснуцца іншыя пытанні:

1. Як гэта сталася і хто вінаваты, што велізарная мнагалюдная і магутная дзяржава раптам знікае з карты Еўропы, становячыся правінцыяй, крэсамі іншай, меншай дзяржавы?

2. Як гэта сталася і хто вінаваты, што багатая і самабытная культура, мова, рэлігія яе пачынаюць сістэматычна і планава выкараняцца, нішчыцца ў ёй і на іх месца навязвацца чужыя?

3. І ці ж магчымы яшчэ горшы сцэнарый ад таго, па якім пайшло Вялікае княства Літоўскае і беларуская нацыя?!

На вялікі жаль, сталася ўсё гэта не без віны нашых дзяржаўных эліт, сярод якіх вядучае месца і займаў Леў Сапега. Трэба адкрыта сказаць: гэтыя эліты, за малым выключэннем і сам Л. Сапега, проста не дараслі да ролі абаронцаў сваёй дзяржаўнасці і тым больш сваёй нацыі, хоць козыры ў іх руках для гэтага і былі.

Бясспрэчна, Л. Сапега — выдатная фігура ў нашай гісторыі. Плюсаў у яго знайсці можна многа, зрэшты, уся кніжка аб іх. Але, на жаль, былі і мінусы. Іх таксама нямала, хоць у кніжцы пра іх ні гу-гу.

На старонцы 28 чытаем: «Абураны крывадушніцтвам Жыгімонта Вазы, Сапега ў лісце за 13 лютага 1558 г. да Крыштафа Мікалая Радзівіла Перуна паведамляў аб непрыкрытай непрыязні караля і вялікага князя да беларусаў ды іншых насельнікаў Княства», а: «Ужо 7 чэрвеня 1588 г. ён піша К. М. Радзівілу: «Ня толькі я, але і ўвесь народ наш зняважаны каралём».

Дык чаму ж ён, Л. Сапега, дапамагае і надалей актыўна дапамагаць будзе гэтаму крывадушнаму каралю — як сам кажа — зневажаць свой народ?! Калі раней Вялікае кніяства Літоўскае было, можна сказаць, узорам згоднага сужыцця розных народаў, рас і рэлігій, дык цяпер наступаюць розныя абмежаванні, падзелы на лепшых і горшых грамадзян, каб хутка потым з дапамогай Л. Сапегі, на жаль, паўнапраўнымі грамадзянамі зрабіць толькі католікаў. Ужо ў яго «Літоўскім Статуце» 1588 г. відны такія схільнасці. Унесена, напрыклад: «Каб жадны мусульманін нябыўураднікам». І гэта павалакло за сабой усё новыя і новыя абмежаванні для мусульман. У 1615 г. забаронена ў мусульманскіх харугвах мець сваіх ротмістраў і харужых, якімі да гэтага часу маглі быць шляхціцы толькі іншай веры. Нягледзячы на тое, што галоўным заняткам большасці мусульманаў была вайсковая служба, мусульманін мог даслужыцца цяпер толькі да паручніка ўключна. У 1616 г. сойм забараняе мусульманам жаніцца з хрысціянкамі пад страхам смерці абодвум бакам. Забаронена таксама будаваць новыя мячэці і папраўляць старыя...

За імі прыйшла чарга на падобныя абмежаванні праваў ужо карэннага насельніцтва Вялікага княства Літоўскага — русінаў (беларусаў і ўкраінцаў). Так пачала калечыць дальнабачная палітыка Вялікага Вітаўта. Пачало руйнавацца тое, што было асноўнай сілай яго.

На 33-яй старонцы аўтар піша: «Ён пачаў самаахвярную барацьбу з Жыгімонтам III Вазам за поўную самастойнасць Княства, імкнучыся прымусіць яго паважаць вялікакняскія законы».

Не хачу спрачацца, да чаго і як імкнуўся Л. Сапега, але ўсім нам вядомы вынік. А вынік такі: крок за крокам Княства траціць сваю самастойнасць і нацыянальна-рэлігійную спецыфіку, груба парушаюцца яго правы і традыцыі, яно занепадае, гіне. Чаго пра апазіцыянера Л. Сапегу сказаць не можна. Ён сістэматычна абрастае сілай, багаццем, славай і, я б сказаў, даверам караля. Не за апазіцыянерства ж, вядома, а за верную службу. Калі і не за адкрытую дапамогу каралю ў правядзенні яго езуіцка-каралеўскай палітыкі ў Княстве, дык за адсутнасць станоўчага супраціву ёй.

А вось вам наступныя прыклады: «З біяграфічных дакументаў Сапегі, — піша аўтар на 34-ай старонцы, — вядома, што ён у 1586 г. прыняў каталіцкую веру і, здавалася б, згодна з логікай тых часоў, мусіў бы абараняць гонар сваёй канфесіі, спрыяць яе ўмацаванню. Аднак, як гэта ні дзіўна нават сёння, канцлер

# Пра цётку Маню ў стылі кантры

Радовішча беларускага слова невычэрпнае. Нашто ўжо здаецца выпрацаваным закінуты штрэк фальклорнай лексікі, але і там, як сведчыць кніга аповесцей Вячаслава Дубінкі «Сіндыкат Мані Дулі», сёння яшчэ магчымы знаходкі.

Здзіўляе адвага празаіка, з якою ён перадае сваё права голасу наіўна-працякаватаму прадстаўніку спецыфічнага этнаграфічнага асяроддзя, што надзіва вынаходліва прыстасоўвае любое новаўвядзенне пад свой густ і светаадчуванне. Па сутнасці, ён вяртае нас у эпоху Ядвігіна Ш., які свядома арыентаваўся на фальклорнае маўленне мужыка-беларуса з яго ганарыстым адчуваннем сваёй еднасці з грамадой, «народам Божым». І гэта ў наш час, калі нават самая-разсамая псіхалагічная проза можа пакінуць раўнадушным спакушанага чытача! Ведае ж, напэўна, В. Дубінка, як крытычна адносіўся ў свой час да сказава-лубачнай стылізацыі Кузьма Чорны. Так і пісаў: «сентыментальны стылёк». З адпаведнай эпосе палітычнай ацэнкай: «нацдэмаўскі». Чуў жа, мабыць, і пра колішнюю дыскусію ў «ЛіМе» пра «інтэлектуальную прозу», «тэлеграфны стыль» і інш., распачатую Міхасём Стральцовым, які іранізаваў над «героем у шарачковай світцы».

І ведае, і чуў. Аднак пісьменніцкае чуццё падказвае, што кароткі «нашаніўскі» перыяд у літаратуры з яго паскарэннем-бегам «наўздагон» і пры ўсіх яго дасягненнях у іншых сферах усё ж як след не засвоіў фальклорны цалік, не даў свайго, як аб тым марыў М. Гарэцкі, «беларускага Гогаля». Вядома, быў бы і Гогаль, калі б ішлося «шляхам жыцця», а не аб'язной загагулінай марксісцкай утопіі. Склалася ж так, што нават цяжкое міжрэвалюцыйнае дзесяцігоддзе сёння здаецца нам «сном залатым», калі мець на ўвазе размах і інтэнсіўнасць нацыянальнага Адраджэння. Позірк таго мужыка-беларуса, «пана сахі і касы», на сучаснасць, на навакольны свет, усё такі ж глухі да яго нацыянальных праблем, вельмі і вельмі актуальны. На жаль ці на шчасце — гэта залежыць, з якога боку падыходзіць,— але сказ як мастацкая форма, заснаваная на стылізацыі вуснай гаворкі, актывізуецца, і гэта сведчыць аб пісьменніцкай незадаволенасці сучасным станам нашай прозы.

У сказа, як паказвае творчы вопыт аўтара кнігі, ёсць свае ступені жанравай чысціні і стылявой градацыі. Тры аповесці, што склалі змест, і ўвасабляюць гэтыя ступені. Калі ж прымяніць мерку, якая выяўляе натуральны рух вобразнай думкі ад задумы да здзяйснення, то кнігу варта чытаць з канца. Аповесць «Цёплая печ для Ямелькі» (дарэчы, назва наўрад ці адпавядае беларускай ментальнасці, дзе лянота менш за ўсё асацыіруецца з печчу, а тым больш з нейкім Ямелькам) па сваім матэрыяле бліжэй за ўсё да дакументальна-нарысаванага апісання «дзён і працы» раённых газетчыкаў, гэтага занядбанага сацыяльнага пласта нацыянальнай інтэлігенцыі, які тым не менш не стамляецца пастаўляць нашай літаратуры і культуры такіх патрэбных ёй працаўнікоў. Сёе-тое ў творы нагадвае пра неўміручыя старонкі «Запісак Самсона Самасуя» А. Мрыя. Ну, хоць бы назвы раздзелаў: «Цікавяць грошы — паваротвай аглоблі», «Як жа бліны пякуцца», «Мюнхгаўзен», «Жменька збожжа і гадавальны бычок». Ці ўменне пакпіць

Дубінка Вячаслаў. Сіндыкат Мані Дулі. Аповесці. «Мастацкая літаратура», 1992.

паставіў на першае месца не канфесійныя, а палітычныя інтарэсы свайго гаспадарства. Сімвалічныя словы Л. Сапегі: «Я католік і з ласкі Божай каталіком хачу памерці, але спакой Айчыны сваёй да скону дзён сцерагчы буду».

Як гэта ні дзіўна, але першнаперш, згодна з логікай тых і ўсіх іншых часоў, хіб логікі ў такіх сцвярджэннях аўтара. Пераходзячы ў каталіцкую веру, Сапега свядома здраджвае сваёй нацыі — сябе і наступныя пакаленні Сапегаў-русінаў робіць палякамі. Ужо ў яго дзяцей і наступных пакаленнях Сапегаў і намёку на беларускасць няма.

Л. Сапега, знаны і шанаваны, высокапастаўлены дзяржаўны дзеяч, быў прыкладам іншым магнатам і шляхце. І масава пайшлі за ім на службу чужой нацыі славутыя і багацейшыя на ўсю Еўропу роды русінаў, пазбаўляючы бедных беларусаў сваёй інтэлігенцыі. А чаго варта нацыя без сваёй інтэлігенцыі, наглядна бачым. Ці ж можна і ці маем маральнае права яму і ўсім ім выбачыць гэтую здраду?

А якім жа недарэчным з'яўляецца сцвярджэнне аўтара, што Л. Сапега, стаўшы католікам, зусім не бароніць гонару сваёй канфесіі, бо паставіў на першае месца не канфесійныя, а палітычныя інтарэсы свайго гаспадарства. Так і хочацца запытацца ў аўтара, дзе ён такое вычытаў, бо факты былі зусім іншымі, а факты, як кажуць, упартая рэч.

Якраз каталіцызм у тагачаснай Беларусі ўступаў, можна сказаць, у свой залаты век. Як юрыдычна, так і матэрыяльна яго становішча было вельмі добрае і з кожным годам папраўлялася. Багацейшыя беларускія праваслаўныя і пратэстанцкія магнаты і шляхта па прыкладу свайго канцлера масава пачалі пераходзіць у каталіцтва. А стаўшы католікамі, раптоўна рабіліся страшэнна набожнымі і адзін перад другім аж са скуры лезлі, каб прыслужыцца новай, дзяржаўнай рэлігіі і штосьці ёй ахвяраваць. Хутка ўся Беларусь была пакрыта густой сеткай розных касцёлаў і манастыроў. Многія з іх былі «юрыдычна» адабраны ад праваслаўных. Тут паявіліся ўсе магчымыя каталіцкія манашскія ордэны. Ім належалі раскошныя будыніны і землі з прыгоннымі беларускімі душамі. Вунь колькі падарыў іх і ўзвёў на ўласныя сродкі толькі сам канцлер Сапега! Некаторымі з іх можам палюбавацца на старонках кніжкі. І калі гэта мае называцца «неспрыяннем» умацаванню каталіцызму, дык як тады выглядае «спрыянне»?

Ці ж так меліся іншыя, яшчэ зусім нядаўна большменш раўнапраўныя з каталіцызмам канфесіі? Не. Пра становішча мусульман я ўжо гаварыў. Пра тое, што падрыхтуе кароль з канцлерам сваім нядаўнім аднаверцам, праваслаўным і пратэстантам, і ўспамінаць цяжка. Вядучая на Беларусі праваслаўная рэлігія пры актыўнай падтрымцы Л. Сапегі была зведзена проста ў нелегальнае становішча, а маёмасць царквы адбіралі і уніяты, і католікі, і хто толькі хацеў. Якраз палітычныя інтарэсы і былі падпарадкаваны рэлігійным. Такая палітыка прынесла не спакой Айчыне, пра які быццам так клапаціўся канцлер, а татальную незадаволенасць, канфлікты, бунты, казацкія паўстанні, што хутка руйнавала і так ужо аслабленае Княства і Польшчу.

Брэсцкую царкоўную унію і ролю Л. Сапегі ў ёй варта, па-мойму, разгледзець дакладней, бо гэта адно з найбольш важных і балючых пытанняў. Царкоўная унія ў Беларусі, канешне, не новае пытанне. Патаемна падымалася яно яшчэ пры каралі С. Баторыі, але навязваць яе русінам у той час не адважыліся яшчэ, бо нашыя эліты былі яшчэ моцна нашымі. А цяпер многія нашы перасталі імі быць. Якая карысць з таго, што ў Княстве цяпер вельмі многае і ў палітычным, і ў рэлігійным жыцці залежыць — як правільна сцвярджае на 41-ай старонцы аўтар — ад русіна Л. Сапегі, калі той Сапега стаў ужо, можна сказаць, Сапягоўскім? Вось чаму так дакладна і бескампрамісна ажыццяўляў у Княстве каталіцка-езуіцка-каралеўскую і ватыканскую палітыку, гэта значыць, падпарадкаванне праваслаўя каталіцызму. І зусім ужо не дзіўна, што на Брэсцкім саборы, дзе рашаўся далейшы лёс праваслаўных русінаў, каралеўскі бок і аўтарытэт даверана бараніць «апазіцыянеру» Л. Сапегу.

На 42-ой старонцы чытаем: «Праваслаўная царква Вялікага княства апынулася траха не на мяжы знікнення». І гэта праўда, толькі варта, па-мойму, падаць і прычыну. А давяла праваслаўную царкву да такога стану свядомая палітыка езуіцка-каралеўскай улады. Гэтая ўлада прысвоіла сабе права ўмешвацца ў справы царквы, напрыклад, назначаць кандыдатаў на кіраўнічыя царкоўныя пасады. Вось і пачалі свядома раздаваць епіскапскія шапкі і пасады не разумным, чэсным, моцна веруючым, дастойным, а розным тым балабанам, якім нават рэлігія была прадметам торгу. Часта на адну епіскопію адначасова прызначалі двух епіскапаў, каб яны грызліся, аплёўвалі адзін аднаго і тым самым кампраметавалі, развальвалі праваслаўе. Вось такая хітрая езуіцкая палітыка і давяла царкву да такога стану. З такімі іерархамі можна было ўжо рабіць што хочаш, тым больш паабяцаўшы ім сенатарскія крэслы, якіх, зрэшты, ніколі і нікому потым не далі.

На 43-яй старонцы аўтар задае сабе пытанне: «Чаму ж канцлер падтрымаў ідэю стварэння вуніяцкай царквы?» І адказвае: «Найперш, ён разлічваў такім чынам спыніць бесперапынныя канфлікты паміж праваслаўнымі ды каталікамі». І што, — пытаю ўжо я аўтара, — спыніў? Наадварот, страшэнна пралічыўся — распаліў іх і пашырыў. І аб гэтым мы ўжо гаварылі. Дадам толькі, што, бадай, ужо не адбудзецца ніводзін сейм, на якім бы не дамагаліся русіны спыніць рэлігійны разбой. Рэлігійныя канфлікты і войны нішчылі цяпер ужо не толькі беларусаў і ўкраінцаў, а ўсю Рэч Паспалітую, паслядоўна прыбліжаючы яе канчыну. За памылкі правячых пачалі плаціць усе. Дык на якой аснове гэты аргумент аўтар прыпісвае канцлеру ў заслугу?

«Але не гэта галоўнае, — смела далей канстатуе аўтар. — Многія беларускія свецкія ды царкоўныя дзеячы... пачалі звязваць з вуніяй стварэнне нацыянальнай царквы беларусаў...»

Калі ж новая рэлігія, якую сілай навязвалі беларусам, мела быць такой богаўгоднай і «беларускай нацыянальнай», чаму ж тады, — зноў пытаюся аўтара, — беларус-патрыёт канцлер Л. Сапега і іншыя магнаты і шляхта самі не прынялі яе? Ці раптам стаў такім прынцыповым у рэлігійным пытанні? Не, не прыняў таму, што дасканала ведаў, чаго вартая і дзеля чаго навязваецца русінам новая гібрыд-рэлігія, як у нас кажуць. А яго адзінай рэлігіяй, відаць, была ўласная кар'ера ды зямныя карысці, якія ў сваю чаргу пачынаў гарантаваць толькі каталіцызм. Як веруючы і адукаваны чалавек, Л. Сапега не мог не ведаць, што паводле хрысціянскіх законаў выкарыстоўванне рэлігіі ў сваіх прыватных і палітычных мэтах найбольшы і невыбачальны грэх, найцяжэйшае злачынства супраць святога Духу (значыць, супраць праўды Божай).

«Дзеля гэтага кажу вам: усякі грэх і ганьбаванне даруецца чалавекам, а ганьбаванне Духу не даруецца чалавекам. Калі хто скажа слова на Сына Чалавечага, даруецца яму; калі ж хто скажа на Духа святога, не даруецца яму ні ў гэтым, ні ў будучым» (Мацвей 12, 31—32 Евангелле).

А цяпер давайце згадаем, як выглядала і ў якім напрамку развівалася гэтая «беларуская нацыянальная» уніяцкая царква. Цэркаўкі і парафіі ўбогенькія. Стан адукацыі ніжэйшага духавенства яшчэ горшы. Часта яны гавораць на простай мове толькі таму, што іншай мовы не ведаюць. У набажэнствах наступаюць частыя змены, якія паслядоўна адводзяць уніятаў ад усходняга абраду да заходняга. Унутраны і знешні выгляд іх храмаў штораз больш становіцца падобны на касцёлы. Са зберажоных старых дакументаў відаць, што царкоўная адміністрацыя вялася ў іх не на беларускай, а на калечанай польскай мове. Гэтая мова штораз смялей уводзілася і ў набажэнствы. Змяняліся імёны людзей і назвы святаў. На польскую мову пераводзілі таксама друкаванне кніг у многіх нашых манастырах. То там, то сям паасобныя людзі, сем'і, а то і цэлыя прыходы пераходзілі на каталіцкую веру. Няхай аўтар пойдзе цяпер і паспрабуе пагаварыць з нашчадкамі гэтых былых уніятаў, а цяпер каталікоў, пра іх беларускія карэнні, тады пераканаецца, чым была і каму прыслужылася унія...

На 39-ай старонцы даведваемся, што канцлер святым гневам ненавідзеў казакаў. Ненавідзіць іх і аўтар. У довад сваёй рацыі прыводзіць страшэнныя радкі з «Баркалабаўскай хронікі» аб іх варварскіх і дзікіх шабашах, хоць у той жа «Баркалабаўскай хроніцы» ёсць і іншыя, зусім прыхільныя радкі пра казакаў, напрыклад, што яны беларускаму насельніцтву «крыўды школы не чынілі».

Прычына нянавісці Л. Сапегі і аўтара да казакаў выясняецца на 47-ай старонцы: «Абаронцамі праваслаўя абвясціліся сябе і запарожскія казакі, яны цяпер апраўдвалі свае крывавыя пагромы і ўсе нябачаныя злачынствы змаганнем за «веру бацькоў».

Вось і падумайце, калі крывавыя пагромы ўчыняў Л. Сапега і І. Кунцэвіч праваслаўным, дык гэта аўтару як бы звычайная рэч, бо што ім гэтыя нядзячныя праваслаўныя з нейчай там «бацькоўскай верай», калі ім канцлер з Кунцэвічам прапанавалі многа лепшую рэлігію! Калі ж падобнымі метадамі пачалі бараніцца праваслаўныя, дык гэта ўжо скандал страшэнны.

Зважце яшчэ, што «бацькоўская вера» ўзята аўтарам у двукоссе, значыць, са злой іроніяй. Відаць, такія паняцці абсалютна пустыя для яго. Як і для яго героя. Л. Сапега за адно жыццё лёгка паспеў змяніць аж тры рэлігіі і ў кожнай быў, падобна, моцна веруючым. Ці ж не праўда?

**Васіль САКОЎСКІ.**
Беласток, Гайнаўка.

**АД РЭДАКЦЫІ. Прызнаемся, у нас быў намер ліст Васіля Сакоўскага з Беластока аддаць на каментар спецыялісту-гісторыку — з тым, каб пэўна мець адказ на тое, наколькі «перабірае» І. Саверчанка адносна беларускага патрыятызму канцлера Сапегі. А што перабірае, то няма сумліву. Гэта можа быць вынікам хранічнага недахопу нацыянальных герояў у Беларусі, з-за чаго мы пачынаем перабольшваць чыста геаграфічны момант і перацягваць на свой бок Касцюшку ды Манюшку. Не выключана таксама (і тут мы згодны з В. Сакоўскім), што мае месца звычайнае кіданне з адной крайнасці ў другую — ад поўнага непрызнання і забыцця да непамернага ўзвышэння. Ісціна, як правіла, бывае пасярод.**

**Праўда, і В. Сакоўскі не ва ўсім мае рацыю. Наўрад ці можна ўскладваць на Льва Сапегу ўсю адказнасць за далейшы (трагічны) лёс Вялікага княства Літоўскага...**

---

над лішне порсткім прэтэндэнтам на званне журналіста: «Ведаеш, баец, куды працаваць надумаўся? Спадзяюся, жыцця нюхнуў? Адрозніш бульбу ад цукровага бурака? Боб у руках трымаў? Гарох малоў за сняданкам? Ведаеш, дзе ў пярэстай каровы цыцкі, а ў шэрага баранчыка рогі?»

Ну, вядома, мы пазнаём у героі В. Дубінкі таго чалавека ад зямлі, які воляю лёсу ў адным выпадку стаў журналістам, «рупліўцам прэсы ўсераённага ахопу» («Цёплая печ для Ямелькі»), у другім — ударніцай-кухаркай на БАМе, «будоўлі веку», «дарозе ў нікуды» («Лепш сініца ў шалупайках»), у трэцім — заснавальніцай сіндыката налётчыкаў на дэфіцыты, сёння мы сказалі б — рэкеціраў, Маняй Дуляй, вясковая ўчэпістасць якой да жыцця так прыдалася ў горадзе і так, мусіць, патрэбна сёння, у час усеагульнага рэзруху і неразбярыхі («Сіндыкат Мані Дулі»). А мог бы быць, як некалі марыў К. Чорны, гледзячы на мітусню калег па літаратуры, добрым цесляй, аратым, хлебапёкам, гандляром, ды ці мала патрэбных людзям прафесій? Вось гэты чалавек не на сваім месцы і, адпаведна, яго поўнае абсурду і парадоксаў жыццё і зацікавіла пільна аўтара.

Літаратары лёгка пазнаюць у Васілі Сініцы саміх сябе, сваіх сяброў — пры ўсіх выключэннях і зігзагах лёсу доля ў нас амаль аднолькавая: «Не палічыць Васілёвы фотапаэмы пра гной і мінеральныя тукі, пра сяўбу і касьбу, пра бульбу і лён...» А фотарэпарцёрства Васіля ў «найбуйнейшай газеце з партыйным ухілам, як у бок працавітага рабочага класа, так і запрэжанага ў саўгасна-калгаснае ярмо сялянства», куды раптам ён узляцеў? «Свайго прытулку Васіль не меў, а начаваў у рэдакцыйным склепе... Адляпаўшы фоткі перадавікоў, спяшаўся па новыя, трэсся ў бартавічках спадарожных машын, кантаваўся ў аўтачакальнях, цалаваў ранішні золак у прыгарадных цягніках». А ўсё дзеля чаго? Дзеля несканчоных бітваў —«за гной і тукі, за брыгады кам. працы, за развафрыстую бульбу, за важкі колас, ільносемя і ільновалакно, супраць траваполля, царкоўнага амбону, апартунізму...» Урэшце бітвы завяршыліся і біцца ўжо не было з кім. «Усё ў руінах, на палёх свой жа колас сіроцкі, канадскае збожжа трапюем, кукурузу нам працавітыя амерыканцы шлюць, гарох і бульбу ад палякаў вязём, супы курыныя венгры расстараліся, абуваюць егіпцяне, мыдла і пральную трасу бяром з Індыі, мяса ямо аргенцінскае, цукеркі смакуем са Швейцарыі...»

Некалі М. Багдановіч, услед за В. Самійленкам, радкі якога пераклаў, марыў: «Няхай кожны сам узарэ сваё нешырокае поле, і заквітнее ўся зямля цветам цудоўным паўсюль». Але, мабыць, Бог не судзіў, доля не паспрыяла, а пустыя людзі збілі з панталыку: замест таго, каб падсабіць маці, а неўзабаве і замяніць яе ў гаспадарцы, маладая, прыгожая і працавітая дзяўчына Вольга Матыка з вёскі Воўчае Балота падалася ў вялікі свет шукаць шчасце («Лепш сініца ў шалупайках»). Ці яна адна? Уражанне такое, што ўся вяскова-шарачковая Беларусь сарвалася з месца і кінулася ў эміграцыю, якую для адводу вачэй назвалі «міграцыяй»: «Даўно пагалоска ходзіць, што ў нашага Воўчага Балота наперадзе аніякай будучыні, перспектывы нябачна, памірае вёсачка... У Воўчым Балоце адна бабулька пазяхае, а другая ў яе зубы лічыць, увесь ім і занятак... Разбеглася моладзь. За хатулі — і ходу». Дзяўчат і хлапцоў з Воўчага Балота можна сустрэць на Калыме і ў Карагандзе, на Атлантыцы і ў Афрыцы: «У любую кропачку на карце тыркні — там і сустрэнеш». Цудоўна, што тубыльцы з гэтай вёскі, як маленькая зорачка ў цёмным небе (так называецца адпаведны раздзел), заўсёды на віду і на добрым рахунку. Э. Хемінгуэй заўважыў эстонцаў, прадстаўнікоў маленькага народа, адзначыўшы, як патрэбна ў бурным моры іх разважлівасць і спакой. Працавітасць, сціпласць, дабрата вылучаюць і Вольгу Матыку сярод будаўнікоў БАМа. Беларускі элемент у Сібіры адчуваецца моцна, і аб гэтым нямала сведчанняў у нашай літаратуры. Але чаму ж так цягне гераіню аповесці В. Дубінкі на радзіму? Ці толькі расчараванне ў патрэбе вялікай будоўлі? Ці мудрыя словы бабкі-шаптухі-чараўніцы Фукаліхі, што прыходзіць да яе ў цяжкія моманты жыцця, запалі ў душу? Ці голас зязюлі паклікаў, той самай, што і М. Гарэцкаму, калі ён шукаў сваіх землякоў па Сібіры, нагадала пра родны край?... «Харошая была казачка, дый уся скончылася...»

Што адбываецца з асобнымі людзьмі і цэлым народам, калі іх сілаю перасадзіць з вёскі ў горад, змяшаць усіх з усімі, ператварыць у народанасельніцтва, можна меркаваць па лёсе Мані Дулі («Сіндыкат Мані Дулі»). Пакуль яна жыла ў вёсцы Няўдобіца, яе няўрымслівая энергія («хутчэй, хутчэй, жыццё не стаіць на месцы, варон не лаві, мух не ганяй») не мела выйсця і толькі ў вялікім горадзе, гэтым сучасным Вавілоне, спатрэбілася: горад калаціў тыя ж тэмпы і хуткасці —«хутчэй, вышэй, далей, болей!» Але куды пайшла ўся яе энергія? На пустое. На здабыццё ўсімі сродкамі і спосабамі ўсялякіх дэфіцытаў — ад кніжак і шпалераў да мэблі і свежай рыбы. Дзеля гэтага і працавала яе фенаменальная памяць, якая трымала ў сабе ў вясковыя часы ўсе падрабязнасці калгасна - прыгараднага жыцця: нездарма яна была ўчотчыцай. Але і на Маню Дулю былі свае ўчотчыкі, такія, як «пісьменнік саюзна-рэспубліканскай значнасці» Гнась Валерчык, які ў сваёй «зялёнай кніжцы» занатаваў усе парадоксы жыцця нядаўніх вяскоўцаў у горадзе: сустрэчу з бабай Груняй, якая жыве ў сваёй аднапакаёўцы на дванаццатым паверсе разам з казой, ветэранам дражджавога завода Корзунам, які крадзе кнігі водгукаў, «парыжанкай» Дусяй Баньковіч, пеюном рэстарана «Начныя падарожнікі» Міхелем Бурканом і г. д., і г.д. «Мы ж культурныя людзі, ого! Даўно па мыле ўсіх абышлі, а па кнігах усім фанабэрыстым даказалі! Сорак дзевяць мільярдаў кніжак на сто з лішкам мільёнаў чалавек. У майго аднаго кораша — навуковец, неблагі спец па быдле, авечках, кнырах, усёк?— кватэрка аднакатуховая, а кніжак у трохпакаёвую не ўвапхнеш... Сядзіць на кніжках, спіць, абутак ставіць на кніжкі...»

Усё гэта, паводле вываду героя, і называецца: «напіцца з конаўкі цывілізацыі», «пад'есці ўдосталь і пяцігодак сталінскіх, і мікітаўскіх, і ільічова-брэжнеўскіх, тых самых, што эканомнасці эканомней, і завяршальнай, і абчалавечанага фактару, і харчова-ежавых...». У выніку ж чалавек застаецца сам-насам з пытаннямі: «А як жыць далей? Куды ісці? Якому Богу маліцца? Каму служыць?» Ці ёсць на гэтыя пытанні дастойныя адказ? Герой-апавядальнік, імправізаваны маналог якога стылізуе В. Дубінка, лічыць, што ёсць: «Адзіны Бог на свеце — твой народ. Адзіная песня — твая Радзіма». Яго словы амаль увесь час спачувальна ўспрымаліся аўдыторыяй слухачоў-чытачоў. Трэба спадзявацца, што і гэтыя ў меру пафасныя словы будуць прыняты належным чынам.

**Міхась ТЫЧЫНА.**

Васіль ЗУЁНАК



# ЗАКЛІНАННЕ ПРАЗ ВЕЧНАСЦЬ

●

Калі дзень першы тварэння
Кранаецца душ чалавечых,—
«Прыйдзі, беларускі геній!»—
Я заклінаю праз вечнасць.

Прыйдзі, каб узняць з каленяў
Бяспамяцтвам затаптаных,
Прыйдзі, беларускі геній,—
Бяда нараджае тытанаў!..

Калі між багоў пачнуцца
Вялікія перадзелы
Іменем рэвалюцый,
Сцягоў, ад крыві зрудзелых,—

Скажы ім: «Дзей землятрусных
Не ладзьце, багі-алімпійцы:
Аддайце Расію рускім,
А нам — Беларусь пакіньце».

●

Публіцысты лірыкаў, як заедзь,
Як машка таежная, сякуць...
Пад кустом лірычным, нібы заяц,
Верш мой рыфмай бумкае ў шчаку:

«Тэмпы, бітвы, мітынгі, пачыны,—
Не бяжы за фактамі наўспрыць:
Праўда голая — як голая жанчына,—
Хочацца хоць чым-небудзь прыкрыць»...

●

Дагарае на ветры мая залатая дуброва,
І Паўночная зорка адзіны кірунак дае:
Ён туды, дзе завея насупіла снежныя бровы,—
І ніхто не суцішыць халодную песню яе.

Будзе ўсё, як было,— замятаецца сцежка зямная,
І ніхто не заўважыць, як ты ў гэтай стыні згарыш.
Ды пачуе віну, што камусьці яшчэ замінае,
І драўлянай рукой сам сабе пераксціцца твой крыж.

## Няўжо...

І сёння над пакутнаю зямлёю
Свабоды неба вараннём кішыць,
І сёння Каліноўскага пятлёю
Нас Мураўёвы хочуць задушыць!..

І Паўлюка Багрыма жырандолі,
Як свечкі памінальныя, няўжо
Гараць і сёння над тваёю доляй,
Радзіма на бяспамяцці крыжоў!

І сёння нашы стомленыя хаты
Няўжо не дапытаюцца асноў!
Няўжо ж парог бацькоўскі вінаваты,
Што кліча — не даклічацца сыноў!..

Няўжо не быў народ пасіянарным,
Калі меў лёс страшней за эшафот,
І сёння, перакручаны пачварна,
Няўжо душой не ўзвесніцца народ!

Ці будуць зноў, Радзіма дарагая,
Бунтоўны рус і апраметны лях
Святлом штыкоў, шпіцрутэнаў, нагаек
Табе ў наступнасць выпраменьваць шлях!..

●

Сядзіць у касцях — як закон:
«Штодня і да́лей, і вы́шай»,—
Сацыялізму плён
І камунізму дышаль.

Вяршыні штодня штурмаваць
Вучыся і ў песні, і ў працы!
Каб хібы штодня выпраўляць,
Вучыся штодня памыляцца.

І сёння, і заўтра — штодня...
А жыць калі ўрэшце будзем!
Чыя мы ўрэшце радня —
Якога свету прыблуддзе!

Пхнецца гадоў арба,—
Зазначылі класікі слушна,—
І выціскаць раба
Трэба па кроплі з душаў.

Энтузіязму гарляк
Заціснуць, каб не ўлюлюкаў.
Альбо — абнашчыўшы гляк —
Слухаць мелодыю Глюка.

●

Былое — не бывае,
Мінуламу няўцям:
Атака лабавая —
Закон і сэнс жыцця.

Не знае адступленняў
Касмічны той разгон.
І першы дзень тварэння,—
Мабыць, апошні ён!

Не павярнуць з былога
Ні лёсаў, ні дарог.
І ў будучым — нічога
Адкрыць не можа бог.

●

Хто мы і дзе мы — без мовы і маці!

---

Марыя ВАЙЦЯШОНАК



# ДОМ НА ЗАХАДЗЕ ДНЯ

Апавяданне

ЖАНЧЫНА ПРЫХОДЗІЛА сюды, у былы маёнтак Хамінскіх, амаль кожную вясну.

Здалёк выдавалася, што ён сядзіць на высокім, дрогкім месцы. З пагорка на пагорак, хваляй выносіла чалавека якраз пад самую браму. Ад брамы захаваліся два слупы, яны ляжалі напроць адзін аднаго, каменнымі галовамі ў адзін бок, захоўваючы нейкі смутны парадак, бы на могілках. Старыя яблыні часцей з чорнымі, апаленымі часам галінамі, некаторыя дрэвы сыходзіліся парамі блізка, пабраўшыся высока ўверсе, нагадвалі сілуэт далёкай, як на малюнку, касцельнай сцяны, фасаду. Некаторыя ўжо паваліліся набок, бура нахіліла ці старасць, аберуч абапіраючыся на зямлю, яны яшчэ жылі, другія стаялі амаль укленчыўшы, цёмнае да бляску мармуровае цела не захінута нічым — кара да яго не бралася, заламаныя вятрамі галіны ўскінуты за голаў... Але ні жалю, ні скрухі ў старым садзе, дрэвы быццам у доўгім задуменні, кветкі на іх галовах віліся мроямі, і яблыні, кожная самой сабе ў пеляну быццам дзеля ціхай уцехі. Скульптурны, дзіўны сад...

Цвіў бэз. Жанчына адчувала проста патрэбу бачыць гэты вялікі вясновы куст на пагорку. Не заўсёды выпадала ўчас, тады, баючыся, што ён адцвіце, кідала ўсё і бегла, быццам магла не паспець, не трапіць на нейкае невядомае нікому, акрамя яе самой, свята. Спяшалася, бегла без дарогі напрасткі, як на голас, мінаючы пагоркі, раку, вал, гэтыя адвечныя забароны гаспадароў, без дазволу ўваходзіла **за жывую таямнічую** агароджу. Бэз звычайна найбліжэй садзяць да дому, каля ганку, і тут таксама грузалле падмурка ляжала побач. Сярод саду, сярод здзічэлых дрэў галубовы бэз блішчэў здалёк смутнымі вокнамі пакояў. Адцвітаў бэз—зачыняліся аканіцы.

З людзьмі ў яе быццам усё ўжо было перагаворана, няма чаго новага ўспомніць, каб расказаць: ну, жылі ейныя бацькі таксама у маёнтку, саслалі іх, палякаў, саветы ў Сібір, усе там загінулі, яна адна вярнулася... Усё перабрана... Затое з гэтымі пакінутымі гаспадаром дрэвамі — жывасіллем пакінуў ратуючыся, ад'ехаў з сям'ёй у Польшчу—можна было бясконца маўчаць аб тым, чаго і не памятаеш. Нямыя рэчышчы памяці запаўняліся птушынымі галасамі, шэптам вуснаў у сутоннях лістоты... Не ўспомніць, чаму, жывучы ў такім-сякім дастатку, не любіш, стыдаешся апрануць на сябе, ідучы ў госці ці тэатр, усё новае, асабліва бяда з абуткам, быццам ніяк не могуць збочыць ногі з той сцежкі, на якую цябе басаногім на зямлю спусцілі з рук бацькі, «хоць ты вазьмі і спалі твае старыя чаравікі», — злуюцца на цябе дома. Чамусьці не любіш, пужаешся свежых белых прасцірадлаў на ноч, табе ўтульней вяртацца ва ўчарашняе, назапашанае целам цяпло, звыклае, з пахамі свайго прытулку-дому, старое кочава, пасланае як не на зямлі. Амаль не памятаеш, як памерлі бацькі, апошнімі зачыніліся дзверы за старэйшай сястрой Уладзяй, яны выходзілі з дому, не развітваючыся, і больш не вярталіся, гінулі ў дарозе, замярзалі, як птушкі, не даляцеўшы да зацішнай страхі. Толькі цяпер ніколі не ходзіш на хаўтуры да сяброў, па-дзіцячы крыўдуючы, што дарагі табе чалавек пакідае гэты свет сам, па сваёй ахвоце, так табе выдаецца, занатурыўся і пайшоў упрочкі. Зрэдку прыязджае з вёскі далёкая радня, гойдаюць аберуч, аж пад столь, ейную калыску, успамінаючы, як прывезла яе з Сібіры выхавацелька, як гадавалася па чужых людзях, і стаяў увушшу незразумелы гул — адзывалася кроў, чуючы блізка, побач сваё племя, аж нездаровілася.

Ад бацькавага маёнтка нічога не засталося, яго лёгка было скасаваць калгаснымі трактарамі. Прыязджала неяк, стала на пагорку ў полі, ціха зрабілася, вецер высока абыходзіў гэтае месца, можа, памятаў яшчэ тут высокі дом, высокія дрэвы. Убачыла пад нагамі камень —можа, ад падмурка?—адвярнула да сябе, быццам ён ляжаў уніз тварам — аніякага пазнатку чалавечага жылля, хаціша.

А гэты маёнтак ахоўвала рака амаль з усіх бакоў, цяпер яна абмялела, месцамі разбітая кароўскімі капытамі ў брады, але з жывучай вадой. Дно далікатна высцілалася белым пяском, бы на чыстым сподку, па-польску мовячы, проста да столу. Вадзіліся тут і стронгі, даўнейшыя людзі кажуць, іх было процьма, рукамі лавілі, рыбіна любіла, каб яе пад жабрамі пачухалі. Баранілі маёнтак і дрэвы. Здавалася, некаторыя з іх палеглі на зямлю ў адну ноч, адным разам, каб загарадзіць, зачыніць дарогу, па якой назаўсёды ад'ехаў з дому гаспадар. Крыж-накрыж складзена сухое галлё, не пераехаць, не пераскарабкацца... не пражаргаць, быццам тут жыве вялікая птушка— гняздо непрылюднага чорнага бусла на баране. Адно з нетутэйшых дрэў скідала на зямлю валоскія арэхі, заўсёды загадкавыя і неспадзяваныя, калі ні натрапіш, заўсёды як дзіцячы навагодні падарунак у панчосе пад падушкай. Другое, галубовы ствол піхты, заўсёды нечакана трапляючы на вочы, стаяла фосфаравым слупам на саракавы дзень. Акацыя рассоўвала камяні, цэглу, жыла на самым падмурку. Пачне чалавек капаць сабе куст і кідае: карані жоўтыя, пакручастыя ад натугі, бы жывыя пахаванцы, цяжка зробіцца ў грудзях, хоць ты тутака агароджу стаў, як на могілках, не чапай гэтае месца. Надвячоркам мышкавала лісіца, крычалі совы, тут яшчэ так-сяк правіла праўнучка той багатай прыроды, што раскашавала пры былых гаспадарах. Тут яшчэ, калі добра ўглядзецца, існавала магія садоўніка. Старыя дрэвы захоўвалі ягоны парадак, стаялі адно за адным класічнымі алеямі. Глядзіш, быццам у гэтым кутку яны тоўпяцца абы-як, а назаўтра, пераступаючы цяжкімі крокамі, ужо таксама пастануць у рад. Будзе замінаць табе густы самасейка-маладняк, чапляючыся за адзежу, балюча ўджгне шыпшына, толькі высока над галавой, дзеля адной птушкі, свіціцца наскрозь прагалак — хіба што на крыллях можна праляцець па старых прысадах. Зрэдку прыходзяць у маёнтак немаладыя бабы, сядзяць тут адны, не баючыся аніякіх прывідаў ці пачвар, да трэціх пеўняў, нагаворацца праз усю ноч пра сваіх нядбайлых мужыкоў, паспавядаюцца адна адной, лёгка без крыўды, даверліва, як нідзе болей, бо тут яшчэ, пэўна, нешта прыветна тлее, саграваецца некім гэтае месца здалёк у думках успамінамі без праклёнаў. Яшчэ, можа, не прастыў улюбёны ў свае мясціны позірк далёкага адгэтуль гаспадара.

Сёлета жанчына хадзіла ў маёнтак амаль кожны дзень. Якраз напроці яе дачы праклалі дарогу машыны — яны звозілі з поля на ток ячмень, і цяпер маёнтак быццам наблізіўся да яе. Нечая неспадзяваная змова. У той вечар ішла пад сонца, на пагорак, сонца на захадзе нізкае, колецца ў вочы, промні даўгія, тырчком, бы з-пад нізкай саламянай страхі, хоць ты прыгінайся, ідучы. Блішчыць палеглае пад калясьмі свежае ржышча. На самым пагорку раптам патыхнула цяплом, бы толькі зараз, на вачах выслабанілася поле, адхінула вольна цяжкую палу збажыны, вее цяплом зямнога цела. Ступіш некалькі крокаў уніз, у лагчыну, бы спусцішся па сходках у скляпенне з глухімі мураванымі сценамі —сыра, холадна. Зноў хваляй на пагорак, зноў блізкае цяпло, проста ў твар, шчака да шчакі. Клубамі ходзяць пахі — дыханне свежага жніва, дыханне лесу, хат. Нізкае неба. Нехта перасцілаў і перасцілаў перад ноччу, ці то ганьбуючы фарбы, ці ўжо занадта модзячыся, і ружовым, і малінковым, і зусім нешта накшае ўскіне, па-дзявоцку гарэзліва, маладымі рукамі. Ціха на дарозе і няўцямна запавольваюцца крокі, спыняешся і раз, і другі. Усё навокал спынілася, чуваць толькі, як шугае твая кроў. Ціша ахоўная, патайная, можа, беражоная вякамі, выстаяная ў полі. Пэўна, у такі час слабеюць запоры, зашчапы паміж гэтым і тым светам, неба бы далечыня, адчыняюцца самі па сабе тайнікі, клады, успаміны, размыкаюцца маўклівыя вусны. Непадалёк цёмныя елкі, галубовыя прасветы паміж імі выдаюцца каменнымі цяснінамі, месцішчам вадаспадаў. Самога патоку не відаць, толькі дробная сліна ў паветры, пырскі, пахне вільгаццю — гэта ж падымаюцца з зямлі, струменяць туманы. Шуміць кроў у вушах. Па нябеснай далечыні ў той бок, дзе схавалася сонца, якраз над маёнткам, цягнуліся доўгія дарогі, ехалі па іх, ішлі цыганы, ружовым пылам падымаўся за імі шлях, дымы вогнішчаў, чырвоныя шалі віліся шлейфамі. Ішлі і ішлі ўслед за сонцам ззаду, каб надтачыць дзень, пазычыўшы ў ночы, — каб хоць што ды ўкрасці. Яны ўжо даўно мінулі маёнтак. Цяжка падняўся з зямлі, бы з цыганскай стаянкі, паляцеў за імі, даганяючы чорны каршун... Шум крыві да непрытомнасці і неспакой, бы нехта вельмі знаёмы, блізкі, мяняючы сваё аблічча, пільна ўглядаўся ў яе твар, пытаючыся: ці пазнаеш?! Блiснула пад нагамі, як ад апошняга серніка, і згасла ржышча, горача ступіць, быццам жар ягоны, сыпучы, тоіцца недзе, пад попелам... Пазнала! Успомніла! І цыганы на захадзе, і скорагаворка вадаспадаў, і цішыня, быццам у поўнай з берагамі чашы, магло быць толькі там, у гарах. Гэта ейная Сібір... Жанчына аглядала ўсё вакол сябе шчаслівымі дзіцячымі вачыма. Ёю зноў валодала моцная ўладарная сіла дзікага хараства, знаёмая з малых гадоў. Яна смяялася сама сабе, зноў, як у дзяцінстве, стоячы недзе каля дарогі, басаніж, таксама чорная ад гарачага цыганскага пылу, і забываючыся, як свярбяць, смыляць струпы на целе. Зноў бегла, скакала з каменя на камень, ледзь паспяваючы знайсці вачыма пад сабой гладкае месца, каб ступіць нагой, не саслізнуць са скалы, захопленая вышынёй, лётам, не разумела, што гэтая нечалавечая лёгкасць не ад вялікага спрыту,— лёгкасць галоднай істоты, што шукае ў гарах сабе белую тлустую цыбуліну лі-

Б'е інтэрдэман у грудзі эпох.
Бог наш у блудзе, бог наш растраціў
Болей, чым мог...

Душы злінялыя брагай палошчам,
Век свой аўраламі цела гняцём
І звар'яцела даводзім на плошчах:
Што ёсць жыццё!

Родняць нас крэслы халоднай крывёю,
Розуму крэсы крамсаем — абы
Шлункі акрэслілі норму спакою,—
Рыбы, рабы!..

●

То балет класічны, то сімфонія,
То спявае Лучыяна Павароці:
Ці памёр з правадыроў хто сёння,
Ці чарговы путч пераваротны!..

Аб надвор'і палітычным тэлерадыё
Выдае музычныя прагнозы.
Што ні дзень, то новы курс урадавы:
Як нам выйсці ў авангард з абозу.

Дакляруе на ўвесь свет віція ўспенены,
Як абуць і накарміць краіну,
Учарашні бос мардуе Леніна
Іменем святым Айца і Сына!

Хрысцяцца ў «хадэкі» камуністыя,
Голяць Маркса і мяняюць маркіроўку.
Дыяматчык «на пазіцыях» не выстаяў:
Прадае кароўку і вяроўку.

І экран на ўсе тэлеабдоймішчы
Прэ ў народ і ўзахліпкі гайдарыцца.
А ў народа — сталае відовішча:
У чарзе, як у пятлі, гайдаецца.

## Запіс у Кнігу водгукаў Масандраўскага віназбору ў Крыме

Бутэлек чорныя тамы —
Масандры вінатэка:
Упокат — горныя грамы
І сонечныя рэкі.

Вось гэткую спадобіў цар,
А ў гэтай князь купаўся...
І толькі той не бачу ў твар,
З якой народ змагаўся.

Славутых марак, як парод,
На шыльдачках найменні.
Але шкада: на сотні год
Бутэлькі анямелі.

Дзе гáласу згубіўся ключ!
Насухамá трымае,
Як у намордніках, сургуч
Пародзістую зграю.

Маўчаць скляпенні камяніц,
У скронях — звон цвярозы.
А ў думках—зваба шаляніц.
Брэх дварнякоў пагрозны:

«Сучок», «бландзінка», «каленвал»,
«Мярзотнічак», «кустоўка»...
Тут вам не сонечны абвал,
А галаваразломка!..

Калі такая вось гайня
Прычэпіцца навальна,
То не ўратуюць ні радня,
Ні кодэкс крымінальны.

Штаны спускае на шматкі,
Кішэні прагрызае.
Ды ў рай затое напраскі
Дарогу праразае.

Бунтуй, задзірысты народ,
Душы разломвай краты!..
А тут — бязмоўных ценяў сход,
Тут спяць арыстакраты...

## Аўтатрэнінг

Ці праклінаюць да асноў,
Ці славяць без аглядкі,
Ці захапляюцца аслом,
Ці бонзе б'юць у ладкі,

Ці ўлада выпала карчу,
Ці чорт сядзіць на троне,—
Хачу маўчу, хачу крычу —
І хто мне забароніць?!.

●

Не спяшайся, той дзень, калі стану
Я ўсёбачным і чуйным, калі
Я ў празор'і сусвету растану
І спасцігну ўсе тайны зямлі.

Дай мне тут паблукаць у цямнотах
Невядомых і страшных дарог,
Дай смяротным пабыць між смяротных,
Дзе я цар і чарвяк — але бог.

●

У тое лета чад гарачыні
І лёсы, і нябёсы затуманьваў,
І спусташэнні на зямлі чыніў,
І смажыў карасёў у тлустай тване.

У тое лета я за крокам крок
Сваё жыццё былое перакрэсліў.
У тое лета я даваў зарок
На д'ябальскі кірмаш не лезці з песняй.

Натоўпам, звар'яцелым ад бяды,
Пабанкаваць — ніжэйшая з амбіцый, —
Лепш паднясі сасмягламу вады
І дай травінцы высахлай напіцца.

●

З лесам, як і з гарамі,
Быць чалавекам мала.
Лес ад іскрынкі згарае,
Каменьчык нясе абвалы.

Іскрынка ў сухуюігліцу
Упадзе светлячком нявінным —
І выбухне навальніца
І ў корані, і ў верхавінах.

Каменьчык звонам пчаліным
Змушае нямыя горы
Азеўрыць ратоў цясніны
На ўсё каменнае горла.

А чалавек! Чалавеку
Суджана быць душою,
Суджана быць апекай
Лясных і горных устояў.

Аддайце ж, і лес, і горы,
Усе вашы крыўды і гора,
А мне наўзамен, недарэку,
Скажыце: як быць з чалавекам!

---

леі саранкі, бадылле «ўшывіка», скочку, згорнутую качанчыкамі. А знайшоўшы рэдкую кветку дзікай півоні, мар'інага кораня, закалоціцца ад радасці і пабяжыць уніз, да людзей, дамоў у склеп, і без дакору поўнымі вялікімі вачыма нежаданага ў сям'і ў гэтым горы дзіцяці, будзе крычаць усім: мяне нехта, нарэшце, заўважыў! нехта знайшоў сярод вас! вылучыў!.. Мяне нехта любіць!..

Яна ўсё стаяла, смяялася. Ужо схаваліся цыганы, толькі матлялася згубленае адно цыганскае кола, захад сонца мяняў і мяняў свае аблічча ўвачавідкі. Неба палала так блізка, што міжволі падумалася: гэтае відовішча можа нашкодзіць чалавеку — надта вялікае шаламя агню, яно перапаліць у душы ўсё кволае, слабае — хіба заўважыш пасля ледзь прыкметнае хараство лесу, поля — будзе цяпер жадацца толькі вялікіх відовішчаў, вялікіх палотнішчаў, будзе захапляць толькі стыхія?! Ахапкамі клаўся на зямлю змрок, а маёнтак на захадзе яшчэ свяціўся. Пэўна, некалі якраз жа адгэтуль, з ейнага боку, вяртаўся дамоў і гаспадар. Дом, казалі, быў такі белы, аж, выдавалася, празрысты наскрозь. Сонца на захадзе абходзіла пакоі пехатой, пакідала яго апошнім. Цішыня на дарозе. Разамкнулася рама на люстэрку поўні, у ім відаць чыйсьці непрыгожы твар, нехта пільна ўглядаецца перад ноччу. Пэўна, Юзюня, дачка гаспадара, яна і замуж не пайшла, дзевавала. А, можа, гэта малодшая прыгажуня Зося пасля таго, як яе коні з пагорка разнеслі, вельмі, казалі, быў твар пашкоджаны? Тут недзе, каля маёнтка, блукае ў сваіх думках і стары дзед Мікалайка, адзіны жывы сведка, але ў яго не дапытацца... На небе ўжо толькі малінковы жар, без галавешкі, без вуголля, бы сена капа згарэла ці сноп... пшаніцы?.. І раптам жанчына заплакала, плач уголас, наўзрыд, быццам душа труднавала доўга — даўно была ўплакаўшыся. Дарога... яна зноў стаіць на той жа дарозе, што і ў дзяцінстве, і ніхто яе дамоў не кліча. Чаму ўспомнілася? Што змусіла? Яна адчула яе фізічна, як пры набліжэнні да нечага гарачага, небяспечнага, цела сціснулася, торгнулася — адчыніўся яшчэ адзін клапан у цемры бяспамяцтва. Успомніла навобмацак: пад нагамі цёплае ржышча, пах саломы, бляск. Зярняты гарачыя каля вогнішча... Начлежнічалі вазніцы, перавозячы некуды збожжа, палілі снапы, жмені пражанага зерня з зямлёй разам, ежа... Успомніла ротам... і каб толькі раней за птушак, за звяроў дабегчы да пакінутага вогнішча і выграбаць, выграбаць з попелу, не чуючы гарачыні...

І цешылася, і плакала, бы пры сустрэчы з некім вельмі родным.

Ніколі нікому не сказала, што гаравала ў дзяцінстве. І голад, і холад, і нежаданае дзіця, а ўсё быццам не балюча, краем сэрца. Бо заўсёды невясёлы, адчужаны матчын твар (яна і памятае яго толькі па фотаздымку) засланяла нечае іншае аблічча. Вяртаючыся са школы амаль заўсёды як на тое раптам зноў адчуць неверагодную здраду: раскруцілася ануча і цягнецца ззаду, высунуўшыся праз дзіравы валёнак, знойдзены на чужым шуметніку. Не даць рады, каб спыніцца і папраівіць абутак, бо скрэплі рукі, і варта іх выцягнуць з-за пазухі, пальцы адваляцца на марозе, абламаюцца, як ледакі. Але не ўстоіш, каб не падняць на дарозе шалупінку ад мандарына. Завея і мароз, абы хутчэй кульнуць у свой падвал (пасля рэабілітацыі ўлады дазволілі палякам выйсці з зямлянак) праз парог і ляжаць качулкай, пакуль іголкі не прашыюць цела да самага сэрца — пачнеш саграваца. Некаму сустрэць, расшпіліць, маці на рудніку. Дапільнавацца, калі зарыпіць над галавой лесвіца, вынесуць карове памыі і раней за яе вылавіць з цабэрка кавалкі хлеба, бульбіну. Потым залезці на цёплую ад учарашняга пліту і не сваім голасам крычаць выратавальныя словы: «Буря мглою небо кроет, вихри снежные крутя...» Нехта дыктаваў і дыктаваў ёй па-руску. Хто? Бо чытанка самой не даецца, асабліва забываецца літара «с», пакуль не ўзаб'ешся на неверагодна салодкае: «с-с-са-хар!. Ледзь-ледзь, квола, пад бацькавым прымусам спявалася польскае: «На подоле бялы камень, подолянка седзі на нім...» і гналі тады, падалянку, дзетдомаўцы па беразе возера: «Бей белых поляков». Усе аднолькавыя, усе ў чорнай адзежы, бераг камяністы, адны камяні, б'юць наўздагон камянямі, наперарэз ім выхавацелька і... непрытомнасць. Ні крыўды, ні злосці, ні страху ад людзей пасля, а толькі чыстае возера, ўсё, як у тваіх прыгаршчах, і гуляюць на дне самі па сабе зялёныя каменьчыкі, і неба нізкае над ёй, ляжачай дагары, і глядзецца ў яго можна, як у ваду... Адымала памяць, лячыла болькі прыгажосць, раскоша, моц зямлі, вады, неба, нехта падымаў і падымаў падпашкі вышэй сваёй галавы, пэўна, горы. І нават сам горад ссылкі насіў іхняе імя — Змяінагорск.

Чаму яны не выратавалі бацькоў? Чаму самі бацькі, сталыя людзі, не адужалі маразы, голад? Няўжо таму, што яна нарадзілася ў тым небе, у гарах, у цяснінах, а ў іх другая зямля, другая калыска, ім не даваў дазволу на тое, каб зачапіцца карэннем за чужую камяністую глебу пакінуты дом, маёнтак, жыццё выдавалася часовым, без моцы чалавечай. Жанчына праз дзесяцігоддзі памятала колер шклянак на матчынай суkенцы,— маці была ўжо без прытомнасці,— зялёнае з чорнай дужкай, летняе ў люты мароз, шаўковыя крылы матыля, замерзлага каля вады, каля студні. І час ад часу лавіла сябе на тым, як нешта змушвае яе спыніцца, варта ўбачыць які-небудзь чужы стары падмурак. Чыймі вачыма прагна глядзіць на разбуранае? Няўжо гэта матчына? Разглядае, як нешта ўжо знаёмае, яе трывожаць, хвалююць пахі паламанай цэглы, вапны, пахі згаслага жытла, гатова сядзець, перабіраць рукамі, як дзіця. Няўжо пашкоджана яшчэ ў чрэве? Яна, як і маці, жыве ў разбураным свеце на грузаллі, на абломках, на чорным падмурку?! Так адбыўся там, у Сібіры, як бы адбор паміж блізкімі людзьмі жорсткі, натуральны, яна адна пакінута на жыццё.

Дзень у дзень жанчына выходзіла з дому, ішла ў маёнтак. Гаварыць ні з кім не хацелася, цяпер яна бліжэй была да дрэў, да травы, чым да людзей. Тут, сярод старых прысад, яна адчувала ў сабе з усім, што навокал, нарэшце, такую вялікую згоду. Маўклівае сумнае месца, бэз, стары сад, дарога па ржышчы, тут яна трапляла ў тую плынь, дзе лёгка было са сваім цяжарам, скарбам памяці. Згадка гарчыла на вуснах: яна заўсёды хадзіла па гэтай дарозе, адна, пад сонцам, па ржышчы калючым, звыкла па ім ісці, не балюча, тая ж дарога, што і ў Сібіры, толькі яна быццам недзе ўнутры была пад голымі ступнямі. Цяпер абазначылася, як хвароба, даўняя, цяжкая, выйшла вонкі, пайшла па твары. Ніхто раней не здагадваўся, не бачыў ейнай хады. Каму раскажаш, хто зразумее? Вакол амаль без перастанку сварыліся з-за дробязей, хітравалі адзін з адным, здраджвалі, мітусіліся, усе быццам былі даўно перасварыўшыся, страцілі давер і не мелі рады прыйсці да згоды. Жанчына пакутліва стаяла ўбаку ад гэтага няскладнага жыцця, тлуму, дапытваючыся: за што? навошта нішчыце адзін аднаго? Там, у Сібіры — ссылка, катарга, а тут хіба жыццё? Паміж тым і гэтым светам толькі і розніцы, што ў Сібіры маразы мацнейшыя? Ніхто не здагадваўся, што жанчына ведае нешта большае: яны ўсе смяротныя, чалавек вельмі кволая істота, яго лёгка загубіць, згнаіць, парваць сэрца. Яна спасцігла мяжу чалавечай сваркі, варожасці, за якой нішчыцца дом, лёс. «Чаму ты ніколі ні з кім не сварышся? А ты б таксама... А ты б яму катораму адрабіла... А ты б яму не пазычыла, а ты адказала б... — павучалі.— Жывеш, як праз шкло... Ты наіўная,— казалі,— усё ўсім выбачаеш, спадзяешся на лепшае, ты людзей не ведаеш...» А ёй каб толькі хоць у адным месцы не парваць сувязь паміж імі, не адпіхнуць чужую няверную руку. «Вы мяне працягваеце катаваць... мне колка, балюча ісці па гэтай этапнай дарозе... Я вам растлумачу, навучу...» Ніхто не слухаў. Які яна, маўляў, мае вопыт? Без мужыка, без дзяцей... Ніхто не здагадваўся, што ў яе вопыт чалавека, яшчэ ў дзяцінстве асуджанага людзьмі на вышэйшую кару — марудную смерць.

Зноў і зноў ішла, мінала браму, калыхаліся вышэй галавы дзікія травы, дзікая герань бы праз адчыненае акно аддавала дамашнім духам, хваравіта, лекамі дыхаў у твар фенхель,— моцныя пахі старога жытла. Там-сям трапляў пад ногі белы, чысты сук таполі, бы паламаны Юзюнін кій, ці Зосін? Не зарастала вялікая паляна, якраз перад вокнамі дома, пад пагоркам, улюбёнае месца, не інакш як і цяпер яно на вачах гаспадароў. Скуль жа тады гэты лёгкі, як дотык, страх за плячыма на пакінутых сялібах, бы ты ў чужых пакоях без дазволу? Тут, на паляне, жанчына неспадзявана знайшла зуброўку, свяшчэнную траву. У вёсцы дужа здзівіліся, бо, казалі, немцы вывозілі з маёнтка лекавыя зёлкі, кветкі, дрэвы машынамі. Пэўна, ёй, казалі, спрыяе гаспадар. І праўда, як сярод незлічоных пераблытаных карэньчыкаў пустазелля, у дзірване, самому ні знай, ні ведай, натрапіць на такі цуд. «Павінен быў гаспадар даць нейкі знак, адазвацца»,— цешылася яна. Вунь раптам лёгкая, як подых, пара над бродам, дзе пераходзіла заўсёды. Яшчэ цёпла, яшчэ далёка да вечара, але ж так даўно сюды, у маёнтак, ніхто не заходзіў, ды яшчэ адмыслова, каб толькі праведаць, хіба магчыма вытрымаць, сцяўшы каменне на падмурку, і не сустрэць! А пад яблыняй праз ноч два яблыкі, чысценькія на траве, побач ляжаць, як рукой пакладзеныя, з кішэні... Схавала зуброўку пад падушку, нясвойскі лясны пах, з-пад капытоў звера, аддае танюткім мускусам, таямніча прыручаная да жылля трава. Ноччу скрозь сон пачула плач. Ці то жаночы голас, ці то мужчынскі, вызвалены з цела чалавека бесцялесны. Душа? Плач, каля самай галавы, склаўшы галовы, так плачуць, жаляцца, бядуюць...

Яно ўсё там, і зуброўка пад падушкай, аплакана, хоць ты нічога адтуль дамоў не нясі. «Рабіць работу, як перад дажджом»,— так любіў дамаўляцца Хамінскі з новым работнікам. Столькі гадоў гіне маёнтак, і не знайшлося ні работніка, ні гаспадара, грэх сказаць, акрамя немцаў, тыя хоць нешта выратавалі, вывезшы да сябе дамоў. Выцягнулі калгасныя дзеці піяніна ў кусты, расказваюць людзі, і ігралі на ім палкамі. Ніхто з новых жыльцоў, камунараў, не ведаў, як коміны чысціць, угарэлася сажа, загінуў і будынак. На могілках і сёння садзяць буракі, перабіраюць матычкай чалавечыя косткі. Запякліся на кветніку без догляду пупышкі чырвоных руж, дзе-нідзе па кветцы. Тады вецер ухапіў у жменю семя маргарытак і панёс па полі, па лесе, пусціў па вадзе. Усюды цяпер вышыванкамі блішчаць дробныя белыя кветкі, заплюснуцца на ноч,— і зноў пад ногі, пад кола.

Даўно абрушыліся сцены панскага дома, дзённым святлом, бы лагчыны, лугі запоўніліся былыя пакоі. Дом цяпер, выдавалася ёй, скрозь, усюды, як кінуць вокам, бо калісьці чалавек будаваўся тут невыпадкова. Доўга перабіраў, а ўлюбіўшы менавіта гэтыя мясціны, ставіў дом так, каб ён упісваўся ў наваколле, і нават неба над дахам было абрана — захад сонца, пэўна, найлепшая ягоная гадзіна. Жанчына абхадзіла ўсё навокал, з пагорка на пагорак, колькі разоў падымалася і бачыла іх, але кожны раз нанова, не пазнавала, быццам учарашняе змывалася моцнай хваляй. Ніколі не змагла б паўтарыць іх

(Працяг на стар. 10—11).

АДРАДЖЭННЕ

# ГІТАРА НА ЗЕМЛЯХ ЛІЦВІНСКІХ

**Колькі тыдняў засталося да адкрыцця другога фестывалю «Адраджэнне беларускай капэлы». У яго праграме пазначаны і канцэрт з удзелам вядомага гітарыста В. ЖЫВАЛЕЎСКАГА, які сам музыкант назваў «Шляхамі Сакалоўскага» і прысвяціў свайму выдатнаму папярэдніку з мінулага стагоддзя. Сённяшняя публікацыя — плён даследчыцкіх пошукаў В. Жывалеўскага і своеасаблівы ключ да разумення праграмы, якую мы пачуем на фестывалі.**

Напрыканцы XVIII — у першыя дзесяцігоддзі XIX ст. распачаўся так званы «класічны перыяд» у гісторыі гітары: на ўсходнеславянскіх землях, як і на захадзе, назіраецца буйны росквіт гітарнага выканальніцтва. У пошуках прызнання многія еўрапейскія гітарысты прыязджалі ў Расію, і шлях іхні, вядома, пралягаў праз беларускія гарады.

Якім жа было тагачаснае гітарнае жыццё Віленшчыны, Міншчыны, іншых рэгіёнаў тутэйшага краю? Цікава піша пра гэта А. Мілер у кнізе «Тэатр польскі і музыка на Літве». Аказваецца, у канцы XVIII і на працягу XIX стст. гранне на гітары лічылася тут звычайнай з'явай. У апошнія дзесяцігоддзі XVIII ст. пры магнацкіх ды шляхецкіх дварах была яшчэ моднаю лютня, але, на думку А. Мілера, ігра на гэтым няпростым для авалодання інструменце вымагала напружанай працы й вытанчанага густу. Гітару трактавалі як інструмент больш прыдатны для музычнага акампанементу: «таварышка аматараў-спевакоў, выканаўцаў народных песень і салонных канцаньет», яна захоўвала забытыя на сённяшні дзень творы мясцовага фальклору. «Хто ж без гітары спявае сантыментальныя скаргі?» — пісаў Адам Міцкевіч і, як дадае А. Мілер, «...ці любімыя Міцкевічам беларускія песні, альбо літоўскія дайны?»

А. Мальдзіс у кнізе «Беларусь у люстэрку мемуарнай літаратуры XVIII стагоддзя піша: «Сярод шляхты былі таксама пашыраны беларускія песні—як літаратурнага паходжання, так і народныя, іх выконвалі нават у нясвіжскім замку Радзівілаў. Паміж прыдворных «рэзідэнтаў» там славіўся «князь Мірскі, стары, чуллівы кавалер, ён іграў на гітары, спяваючы тэксты і розныя песенькі, якіх умеў без ліку — польскія, жмудскія, беларускія —часцей за ўсё...» (Ю. Крашэўскі)». Пісьменніца Э. Ажэшка ў рамане «Над Нёманам» заўважыла, што менавіта пад гітарны акампанемент на Гродзеншчыне гучалі мясцовыя «п'ёсэнкі людовы». А што ж адбывалася на ніве прафесійнай?

І. Бэлза ў першым томе «Гісторыі польскай музычнай культуры» называе прозвішча чэшскага арфіста Юзэфа Сіхры, «дзейнасць якога выпадала на другую палову XVIII стагоддзя ў гарадах Польшчы, Беларусі і Літвы, у прыватнасці ў Вільні». У 1773 г. у сям'і гэтага чэшскага музыканта нарадзіўся сын Андрэй, у будучым — адзін з заснавальнікаў прафесійнай школы ігры на «рускай» сямістурннай гітары. Яшчэ юнаком А. Сіхра пачаў выступаць у Вільні як арфіст і выканаўца на шасціструннай гітары. «У канцы дзевяностых гадоў, піша П. Стаўпянскі ў кнізе «Музыка і музіцыраванне ў старым Пецярбурзе», — Сіхра зрабіў першы вопыт майстравання сямістуннай гітары». У 1801 г. ён пераязджае ў Маскву, пасля выгнання Напалеона з Расіі — у Пецярбург, дзе займаецца педагагічнай, выдавецкай і кампазітарскай дзейнасцю. Сучасным гітарыстам вядомыя ранія мініяцюры Сіхры — мазуркі, прэлюдыі, паланезы. Ці не ёсць яны водгукам нацыянальных віленскіх мелодый?

Безумоўна, цэнтрам тагачаснай музычнай культуры ліцвінаў была Вільня: у 1775 г. тут нарадзіўся віяланчэліст, кампазітар і гітарыст Антоні Радзівіл; у 1792 г. жыў і працаваў гітарыст Бартламей Мухлінскі, у 1803-м па дарозе з Варшавы ў Пецярбург горад наведаў італьянскі спявак і гітарыст Пасквале Гальяні, у першай палове XIX ст. у Вільні выступалі з сольнымі канцэртамі Станіслаў Шчэпаноўскі, Станіслаў Ябланоўскі — вядомыя польскія гітарысты.

У 1816 г. у Брэст-Літоўску памёр аўтар першай рускай «Школы ігры на гітары» — чэшскі гітарыст і кампазітар Ігнат фон Гельд. Аглядаючы старонкі ягонай біяграфіі, Б. Вольман у кнізе «Гітара ў Расіі» пісаў: «Заўчасная смерць бацькі прымусіла семнаццацігадовага юнака шукаць шчасця на чужыне. У 1793 годзе Гельд выправіўся ў Польшчу, дзе дзякуючы добрым манерам і музычнаму таленту быў прыняты ў дамах арыстакратаў... Ён узяў удзел у польскім паўстанні (1794 г.) і апынуўся ў ліку ваеннапалонных. У 1797 годзе Павел І ... вызваліў Касцюшку і яго аднадумцаў, у ліку якіх быў і Гельд». Гітарная «Школа» Гельда тройчы перавыдавалася за параўнальна невялікі прамежак часу, прычым у «Санкт-Пецярбургскіх ведамасцях» за 1811 г. аўтар паведамляў: «Рашыўся я надрукаваць гэтую працу шляхам падпіскі. Асобы, якія жадаюць мець яе, мусяць падпісацца... Білеты можна атрымаць у С.-Пецярбурзе ў мяне, ...у Віцебску ў сп. Ігната Вероскага; у Вільні ў сп. Юліяны Вероскай». Пасля вайны 1812 г. многія выданні патрыятычных твораў Гельда паступалі ў продаж з дабрачыннай мэтай (напрыклад, «Расейская балада на вызваленне Полацка»).

Унікальныя матэрыялы знайшоў я ў кнізе Г. Кісялёва «Пачынальнікі», прынамсі — пісьмы і карэспандэнцыі дзеяча беларускага адраджэння, пісьменніка Арцёма Вярыгі-Дарэўскага. Вось некалькі вынятакў: «Колькі тыдняў назад слухала наша сталіца, у час выбараў, ...гітарыста Ігната Доўнара, што нас і Вільню ўзяў за сэрца чуллівай мелодыяй сваёй вернай спадарожніцы арэнбургскага жыцця». «Надоўга застануцца ўражанні ад артыстычнай чуллівасці гітары вядомага ўжо вам п. Ігната Доўнара і музычнага вечара п. А. Концкага». У каментарыях да музычнай карэспандэнцыі Вярыгі-Дарэўскага Г. Кісялёў падае кароткую даведку: «Доўнар-Запольскі Ігнат нарадзіўся каля 1829-га году, у канцы саракавых гадоў дробны чыноўнік у Мінску, сасланы ў Арэнбург у салдаты за ўдзел у «Братнім саюзе літоўскай моладзі». З 1856-га году жыве на радзіме пад наглядам паліцыі!» (і, дадамо, — дае сольныя канцэрты на гітары).

З уласнымі карэспандэнцыямі ў польскім часопісе «Рух музычны» выступаў мінскі музычны крытык, першы біёграф С. Манюшкі—Аляксандр Валіцкі. Як адзначае А. Мальдзіс («Таямніцы старажытных сховішчаў»), музычнае жыццё Мінска і Слуцка ў сярэдзіне мінулага стагоддзя, «мяркуючы па артыкулу Аляксандра Жалязняка (А. Валіцкага) «Мінская губерня ў музычных адносінах», апублікаванаму ў 49-ым, 50-ым і 52-ім нумарах часопіса «Рух музычны» за 1858 г., — гэтае жыццё не было такім ужо і бедным. ...Сярод слуцкіх музыкантаў Жалязняк называе надзвычай здольнага гітарыста Кароля Стрэлку, які вучыўся ў самога Джульяні». А вось адзіным сапернікам Джульяні Валіцкі назваў славянскага гітарыста XIX ст. Марка Конрада Сакалоўскага, творчая спадчына якога належыць не толькі польскай і рускай (як падаецца ў крыніцах), а і ўкраінскай, літоўскай ды беларускай музычным культурам.

Хто ж ён, сапернік Джульяні? Канцэртная дзейнасць Сакалоўскага ахоплівае больш чым трыццацігадовы перыяд. Ягоным мастацтвам захапляліся жыхары буйнейшых музычных цэнтраў Еўропы — Мілана, Лондана, Парыжа, Бруселя, Берліна, Вены, Варшавы. З 1859 г. Сакалоўскі выступае ў Вільні, Коўне, Друзгеніках, Гародні, Навагрудку, Слуцку, Мінску, Магілёве, Віцебску, іншых гарадах. У «Магілёўскіх губернскіх ведамасцях» тады паведамлялася: «У мінулую нядзелю ў зале Трубачэева мы чулі чароўныя гукі гітары пана М. Сакалоўскага. Цяжка было ўявіць, што ў струнах гітары схавана столькі сілы і характва: ...яго дзесяціструнная гітара і спявае, і гаворыць — і так шчыра гаворыць душы, што не хочацца верыць, што гэта быў мёртвы інструмент, які не сам па сабе гаварыў, а пальцамі артыста абуджаўся да жыцця і пачуцця».

У Магілёве Сакалоўскі знаёміцца з Вярыгай-Дарэўскім, які па прыездзе ў Віцебск адразу піша А. Кіркору: «...З радасцю марым аб тым, што неўзабаве будзем слухаць ігру славутага нашага гітарыста п. Марка Сакалоўскага, які, сыты лаўрамі Кароны, Літвы, Украіны, Вены і Масквы, успомніў аб сваіх братах з-пад Дняпра і Дзвіны. Цяпер знаходзіцца ён у Магілёзе з п. Аляксандрам Хадэцкім, славутым маладым фартэпіяністам, у суправаджэнні якога на працягу ўжо некалькіх месяцаў зачараваў значную частку свайго краю і павінен паланіць сэрцы віцяблян, здаецца, каля Новага года. Няхай бы салодкая мелодыя гітары, спалучаная з такім жа фартэпіяна, была вяшчункай лепшых для нас дзён!»

І вось у дзесятым нумары «Руху музычнага» за 1860 г. выйшаў без подпісу артыкул (ён належаў Вярызе-Дарэўскаму): «Віцебск. 8-га студзеня г. г. адбыўся тут першы канцэрт паноў Марка Сакалоўскага, гітарыста, і Аляксандра Хадэцкага, фартэпіяніста, а 13-га — другі. У абодвух канцэртах прымалі артыстаў з бязмежным захапленнем, якое на працягу ўсяго трохтыднёвага іх знаходжання ў нашым горадзе зусім не страціла сваёй сілы, што даказваюць урачыстасці markednага роду, якія наладжваліся для іх ва ўсіх пластах віцебскага грамадства. Ад начальніка губерні да брацii шляхты, усё, што магло захапіцца духоўным хараством, адкрывала душу для мілых гасцей. Артысты сваім талентам аддзячвалі за сардэчны прыём... Мы спадзяваліся яшчэ пачуць нашых артыстаў у канцэрце, які яны збіраліся даць з дабрадзейнымі мэтамі, але не залежная ні ад іх, ні ад публікі прычына прымусіла іх паехаць. Прычыны гэтай мы не зразумелі, хіба толькі нявінная таварыская сардэчнасць магла выклікаць у кім-небудзь зайздрасць, заўчасную якую засцярогу, урэшце трывогу? Аднак ахвярнае прыняцце ўладамі ахвяразання ад канцэрта, яго філантрапічная мэта павінны былі адхіліць усякія падазрэнні, што маглі ўзнікнуць у падобных акалічнасцях. Цяпер, пасля ад'езду артыстаў, надышла цішыня — можа, на вельмі доўга...»

Прычына ж, хутчэй за ўсё, была адна — камусьці не спадабалася, што артысты сваім мастацтвам абуджалі патрыятычны дух мясцовага насельніцтва. «Любы Арцёме, люблю цябе сардэчна і прагну ўзаемнасці»,— такі аўтограф пакінуў Сакалоўскі ў «Альбоме Вярыгі-Дарэўскага». У сваіх «Падарожжах у 19-е стагоддзе» А. Мальдзіс называе невядомы верш А. Вярыгі-Дарэўскага — «Марку Сакалоўскаму і Аляксандру Хадэцкаму, нацыянальнай гордасці, нашым любімым артыстам,— ад беларусаў». Ігра М. Сакалоўскага натхніла на верш і выдатнага польска-беларускага паэта (дарэчы, аўтара паэтычных абразкоў пра «літоўскіх» лютністаў XVII ст.) Уладзіслава Сыракомлю (спецыяльна для гэтага артыкула пераклаў з польскай К. Цвірка):

**Пэўна, змалку ад бабулі**
**Вы пра Марка ў пекле чулі...**
**Ды каб Марка ўзнёсся ў неба —**
**Цуд ужо тут нейкі трэба!**
**Хто здалее на гітары**
**Слёзы ўзняць з душы і мары,**
**Каб пачуццяў вар гарачы,**
**Бы ў гаршку, кіпеў, няйначай?**
**Хто б зрабіць мог цуд той боскі?**
**Толькі Марка Сакалоўскі!**

Калі верыць інфармацыі літоўскага гітарыста Ю. Рымкявічуса, надрукаванай у «ЛіМе» за 1969 г. і ў музычным альманаху «Гітара» (Масква, 1989), у 1859 г. у Мінску жыў вядомы скрыпач заснавальнік Варшаўскага музычнага інстытута — Апалінарый Концкі. Ён слухаў Сакалоўскага ў пачатку лістапада 59-га. Пасля канцэрта А. Концкі падараваў гітарысту свой фотаздымак з надпісам: «Славутаму артысту М. Сакалоўскаму ў знак нашага захаплення і любві. А. Концкі. Мінск».

Ужо будучы прызнаным у Еўропе гітарыстам, М. Сакалоўскі марыў стаць прафесарам кансерваторыі, але, на вялікі жаль, ідэя яго так і не ажыццявілася. Дырэктар Маскоўскай кансерваторыі Мікалай Рубінштэйн катэгарычна адмовіў прапанове Сакалоўскага ўвесці выкладанне класічнай гітары ў кансерваторыі...

Працяглая хвароба ўсё больш перашкаджала М. Сакалоўскаму выступаць з канцэртамі, ён пераязджае ў Вільню, дзе зарабляе на жыццё прыватнымі ўрокамі.

Марк Сакалоўскі памёр 25 снежня 1883 г., яго магіла знаходзіцца на Віленскіх могілках Расу. Прыхільнікі таленту музыканта ў памяць аб сваім настаўніку, сябру зрабілі альбом з фотаздымкамі, рукапісамі, газетнымі публікацыямі і рэцэнзіямі. Некаторы час «Альбом М. К. Сакалоўскага» належаў прафесару Віленскай кансерваторыі Багушэвіч-Ледахоўскай, ён і зараз захоўваецца ў Вільні.

**Валеры ЖЫВАЛЕЎСКІ,**
**старшы выкладчык**
**Беларускай акадэміі музыкі.**

# Дом на захадзе дня

**(Пачатак на стар. 8—9).**

рукой, немагчыма адной нерухомай лініяй, як нельга заспець неспакойнае мора. О, бясконцасць прыгажосці! Сонца адвярнулася патыліцай, было лягчэй глядзець яму ў след. Воблакі над маёнткам пырхалі чарадой сівых галубоў. Часта сюды наведвацца... жанчына ўжо пужалася, каб не вычытаць да канца, не завучыць на памяць усё, што навокал, не спасцігнуць. Вось і зноў на дарозе цішыня, але зусім інакшая, сярод звыклага: дрэў, травы, кветак — чаканне і нават урачыстасць, як за даўгім дамашнім сталом, на свята, перад чыёйсьці прадмовай, а, можа,— перад новай працай у полі, ці каля піяніна. «Не уходи, побудь со мною...» — спявалася, вымаўлялася так, быццам яна сама складала гэтыя словы, павольна, не ведаючы, што скажа далей, аднымі вуснамі, як у рэдкую хвіліну прызнання. Нідзе, ніколі раней не адчувала ў сабе такі лёгкі да спеваў голас, не іначай, як трапіла ў самае гняздоўе рамансаў, дзе яны, можа, і нараджаліся. Высокае тут месца, як у небе пабудзеш. Раптам павеяла свежым нібы перайшла ў другі пакой з адчыненымі вокнамі. О, як знаёма! Так ужо на змроку рыхтуючы ў дзяцінстве ўрокі, гартаючы старонкі ўніклівай чытанкі, убачыш яркі малюнак: крыху наводдаль, сярод поля з дробным шрыфтам іржышча стаялі дубы. Вольна, адзін каля аднаго, мудра калісьці разлічыўшы на свой вялікі рост, на вечнасць. Неспадзяванае пачуццё маладосці побач з імі, бо ў іх інакшы адлік часу, чым у іншых дрэў. Тут надзвычай светла, як каля даўно і надоўга абжытай сялібы з раннімі па вечары агнямі. Сцямнела ўвачавідкі, быццам падышлі і апусцілі цяжкую штору.

Ці не запазнілася трохі. Ужо была мінула пералесак, як на ўскраі выступіла чыясьці постаць. Маленькая, усохлая, бы злежаная на цвёрдым галава, здавалася, вочы пільнуюцца, сочаць цябе, але сам чалавек нерухомы, злежаны, жывасіллем падняты на ногі, і ў вачах смяротная засяроджанасць. Вусны самкнуты, адна рука на прудзях, завысока, нягнутка, бы не сама па сабе, а закладзеная чужымі рукамі. Боты высокія, можа, у паляўнічым убранні, але з эпалетамі, на плячы, яны вісяць беспарадкава, шышачкамі хмелю. Адзежа пабіта зяленькамі, пацягнута сырым магільным марозівам... Вось-вось зараз ці яна, ці ён, адваліцца, як стой, бразне дагары. Ледзь здужала ўхапіцца за нітку свядомасці, пазнаўшы высокі куст дзядоўніка з цёмнымі ланцугамі хмелю. Агледзелася,— хоць ты хрысціся,— вось і дазналася нарэшце, гаспадара (не, пэўна, гэта заяц). Няўжо пачало ад стомы ўваччу здавацца, самая пара — вечар. А гэта восень разбаўляла скрозь зялёную

З ПОШТЫ «ЛіМа»

# ЧАС ПАКУЛЬ ЁСЦЬ

Старажытны Нясвіж ці не адзіны на Беларусі горад, які шмат у чым захаваў сваё гістарычнае аблічча і збярог да нашых дзён своеасаблівую адметнасць цэнтра радзівілаўскіх латыфундый. Такія помнікі гісторыі, як Слуцкая брама, фарны касцёл, ратуша і гандлёвыя рады, кляштар бенедыкцінак, замкавая вежа, «дом на рынку», прываблівающь да сябе шмат экскурсантаў, турыстаў, аматараў даўніны, мастакоў. Але сапраўднай пярлінаю Нясвіжа нездарма лічыцца палацава-замкавы комплекс з паркамі, якія ахутаны паданнямі і легендамі сівой даўніны, калі горад быў адным з галоўнейшых і буйнейшых цэнтраў Вялікага княства Літоўскага. У Нясвіжскай ардынацыі «адна вучоная літоўская дама», жонка князя Міхала Казіміра Радзівіла «Рыбанькі» Урсула Францішка Радзівіл з роду Карыбутаў-Вішнявецкіх (якая атрымала бліскучую хатнюю адукацыю, складала вершы, ведала замежныя мовы) стварыла першы ў Вялікім княстве Літоўскім прыватнаўласніцкі свецкі аматарскі тэатр, першы ў гісторыі ўсходніх і заходніх славян, адначасова стварыўшы і ўласную драматургію...

13 (26) чэрвеня 1746 г. у загараднай рэзідэнцыі Альба бліз Нясвіжа была пастаўлена першая камедыя У. Ф. Радзівіл «Дасціпнае каханне». Паводле жанру гэта камедыя-пастараль у стылі камедыі дэль артэ з песнямі і танцамі. Фактычна гэта з'явілася пачаткам новай эпохі ў гісторыі мастацтва — пачаткам свецкага тэатра на Беларусі, дзе да гэтай пары даваліся толькі спектаклі школьных тэатраў пры калегіумах. Нясвіжскі тэатр апярэдзіў першыя ў Расіі пастаноўкі ў «Шляхетном корпусе» (1749 г.), у першым прафесійным тэатры Ф. Волкава (1756 г.), а таксама першую пастаноўку ў польскім «Тэатры Нарадовым» (1765 г.). Як драматург і як рэжысёр У. Ф. Радзівіл стварыла і паставіла і першую тэатральную драму, і першую тэатральную казку.

Будзеце ў Нясвіжы, дык звярніце ўвагу на шырокі выступ землянога вала вакол замка з боку Слуцкай брамы. Гэта так званая сцэна тэатра «каля рва на валу». Ганаровыя гледачы мясціліся на вялікім гаўбцы (балконе) замка (ён збярогся). З другога боку замка некалі быў у «італійскім садзе» будынак «Кансаляцыі» з тэатральнай залай. Побач з касцёлам раней стаяў «камедыхаўз» — першае стацыянарнае тэатральнае памяшканне на Беларусі, прыстасаваны будынак манежа «Рыцарскай Акадэміі», куды дапускалася і гарадское насельніцтва. Менавіта тут пачыналася прафесійнае беларускае тэатральнае мастацтва...

Найцікавейшая манаграфія прафесара Г. Барышава «Тэатральная культура Беларусі XVIII ст.», што пабачыла свет сёлета, магла б даць уяўленне пра гэта найгрунтоўна, ды наклад кнігі — 780 паасобнікаў, — ніяк не дапаможа тое ўяўленне скласці... Але ж кніга — добрая падстава нагадаць, што чатыры гады засталося да 26 чэрвеня 1996 г., да 250-годдзя запачаткавання прафесійнага беларускага тэатра, да выдатнай даты ў гісторыі еўрапейскай культуры! Часу дастаткова для таго, каб годна падрыхтавацца да юбілею, які мусіць зрабіцца нацыянальным святам, такім, як юбілей Францішка Скарыны ў 1990 г. Перадусім трэба падбаць пра лёс Нясвіжа, крытычна прааналізаваць здабыткі і страты шматгадовай рэканструкцыі ягоных паркаў ды азёраў, аднавіць гэты горад, як спраўны цэнтр гісторыі Беларусі, аб'ект еўрапейскага і сусветнага турызму з адпаведнай сучаснай інфраструктурай.

**Лявон КАДЗЕЙ,**
**сябра БСДГ.**

НА АТРЫМАННЕ ДЗЯРЖАЎНАЙ ПРЭМІІ БЕЛАРУСІ

# І ЗНОЎ ПРА ВЕЧНАЕ...

Яшчэ і года не прайшло, як мне давялося падзяліцца з чытачамі «ЛіМа» сваімі ўражаннямі пра новыя творы беларускіх кампазітараў, прадстаўленыя на адкрыцці мінулага філарманічнага сезона. Сярод іх была і кантата Галіны Гарэлавай «Тысяча гадоў надзеі». Кампазітар, для якога самае істотнае — асэнсаванне вечных праблем быцця, захоўвае вернасць сваёй тэме ў мастацтве.

Сённяшняя гаворка пра іншы яе твор — кантату «Anno mundi ardentis» («У год сусветнага пажару»), якую Г. Гарэлава стварыла ў 1989 г. і якая, на мой погляд, пакуль што застаецца найбольш яскравым і дасканалым па мастацкіх якасцях ейным творам. Ды і не толькі ейным... Гэтая кантата літаральна сталася падзеяй музычнага жыцця рэспублікі, калі ўпершыню прагучала ў канцэрце X з'езда кампазітараў Беларусі. Таму не было нічога дзіўнага ў тым, што яна перамагла ў даволі складаным конкурсе ў асяроддзі прафесіяналаў: у парушэнне традыцыйнага палітэсу, упершыню на маёй памяці, вылучэнне твора на атрыманне нацыянальнай Дзяржаўнай прэміі праходзіла не ў вузкіх колах праўлення Саюза кампазітараў, але на агульным яго сходзе. І выбар быў зроблены зусім у духу часу — на альтэрнатыўнай аснове (вылучалася яшчэ тры вартасных прэтэндэнты) і тайным галасаваннем.

Здаецца, твору наканаваны поспех. Ёсць тут высокая духоўнасць, высакароднасць думкі, шчырасць пачуццяў і выразнасць кожнай музычнай інтанацыі. Пры гэтым — скупая і стрыманая манера выказвання. Вось яно, сталае майстэрства, — у партытуры ніводнай лішняй ноты! Але, бадай, галоўнае — гэта моцнае эмацыянальнае ўздзеянне на слухача, уздзеянне абаяльнага і самабытнага талента кампазітара.

Г. Гарэлава звяртаецца ў гэтым творы да антываеннай тэмы, адной з магістральных для беларускага мастацтва, і, можа, таму вельмі адказнай. Дадам, і адной з самых складаных для мастака, бо тут нашы майстры сказалі вельмі важкае слова, якое прагучала на ўвесь свет. Таму, каб цябе пачулі, трэба знайсці нешта сваё, адметнае... На мой погляд, Гарэлавай гэта ўдаецца. Кампазітар-лірык, яна вырашае гэтую тэму ў псіхалагічным плане, праз рамантычную прызму: пра вайну развахаюць салдат, які загінуў у баі, і яго каханая. Разам з тым рамкі апавядання пашыраныя да касмічных маштабаў, вечнасці. Гэта дыялог жывых і мёртвых, а вайна паўстае ў кантаце як сусветнае зло, якое супярэчыць самой чалавечай прыродзе.

Вобразны свет кантаты метафарычны і шматмерны. Драматычны апакаліпсіс другой часткі («Тридцатый месяц» на верш В. Брусава) змяняецца трагічнай іроніяй трэцяй («Парыж. 1940» на вершы Л. Арагона). Жудасны гратэск пятай («Спящий в ложбине» на верш А. Рэмбо) абрамляецца лірыкай філасофскага роздуму пра смерць («Если я там погибну» на верш Г. Апалінэра і «Мои мучительные сны» на верш А. Таркоўскага). А над усім гэтым лунае прывід асляпляльнага летняга дня, сімвалу жыцця. Гэты музычны вобраз робіцца скразным. Ён з'яўляецца ў першай і сёмай частках (верш «Июльская баллада» С. Кірсанава). Прамянём святла, надзеі азараецца кода сурова-трагічнага фіналу («Не зови меня» на верш П. Антакольскага).

Мяркую, што менавіта ўсёабдымнасць зместу кантаты вызначыла і кола яе паэтычных крыніц. Дарэчы, у час, калі пазначылася спрошчаная тэндэнцыя лічыць нацыянальнай музыкай толькі тую, што напісана на беларускія тэксты, такое вырашэнне тэмы здаецца ўчынкам, сведчыць пра сапраўдную культуру мастака, яго творчую свабоду. Тым больш, што беларуская паэзія не чужая Г. Гарэлавай. Нацыянальны каларыт, дзівосны водар нашага фальклору чутны ў яе «Лірычнай кантаце» на беларускія народныя тэксты, у вакальным цыкле на вершы М. Багдановіча «Дзявочыя песні», у «Чатырох песнях над калыскай» на вершы беларускіх паэтэс. Так фарміруецца індывідуальны музычны стыль кампазітара. Але для Г. Гарэлавай паняцце нацыянальнага не ўмяшчаецца ў нейкія спецыяльна акрэсленыя (а можа, ужо і афіцыйныя?) рамкі абавязковага этнаграфізму. Успрымаючы сусветную паэзію праз прызму нацыянальнай свядомасці, афарбоўваючы яе сваёй музычнай інтанацыяй, кампазітар складае твор, што робіцца здабыткам нашай культуры і, спадзяюся, дзякуючы сваёй мастацкай вартасці, трывала ўвойдзе ў яе асноўны фонд. Vita brevis, ars longa.

**Радаслава АЛАДАВА.**

# Скарына вяртаецца ў Прагу

Даўно скончыўся конкурсны марафон на помнік Францішку Скарыне для сталіцы. Праект скульптара Алеся Дранца і архітэктара Алеся Камлюка ўхвалены журы як лепшы. Журы не паддалося тады ўціску тых, хто дамагаўся перарэзаць чырвоную стужачку менавіта ў дні святкавання 500-годдзя Ф. Скарыны перад высокімі замежнымі гасцямі, а які той будзе помнік, іх мала цікавіла. Абмежаваліся, праўда, тады мемарыяльнай дошкай на будынку Прэзідыума Акадэміі навук. Аўтар шыльды — таксама Алесь Дранец. Скарына і яго час для маладога скульптара нешта большае, чым проста тэма. Магчыма, мастак усвядоміў гэта падчас творчай камандзіроўкі ў Польшчу і Чэхаславакію, арганізаванай Пятром Краўчанкам, цяперашнім міністрам замежных спраў РБ. Але выспявала тое ўсведамленне раней. Дарэчы, менавіта П. Краўчанка вёў перамовы з кіраўніцтвам Чэха-Славакіі аб тым, каб беларускія мастакі зрабілі помнік і мемарыяльную дошку Ф. Скарыне ў Празе.

На арганізаваным у рамках секцыі скульптуры Саюза мастакоў Беларусі міні-конкурсе на лепшы праект мемарыяльнай дошкі для Прагі быў ухвалены варыянт А. Дранца. І вось, нарэшце, закончаная праца скульптара неўзабаве ўпрыгожыць Старое месца Прагі, дзе ў 1517—1519 гг. Ф. Скарына выдаў сваю «Біблію». Скульптар А. Дранец і архітэктар Ю. Казакоў вельмі тактоўна ўваходзяць у асяроддзе гістарычнай часткі горада.

Паралельна з працай над мемарыяльнай дошкай А. Дранец штодня разам з архітэктарам працуе над завяршэннем вобразна-пластычнай і кампазіцыйнай будовы помніка Ф. Скарыне, прывязкі яго да каланады Акадэміі навук, да ўсёй прасторы, уключаючы і ўнутраны дворык Акадэмічнай бібліятэкі, плануе вынесці свае ідэі на разгляд рэспубліканскага журы.

Карыстаючыся выпадкам, хацелася б ухваліць ідэю маладых творцаў і дадаць наступнае. У рэспубліцы, як суверэннай дзяржаве, наспела неабходнасць стварэння Пантэона дзеячаў нацыянальнай культуры, дзе былі б сабраны славутыя імёны слынных дачок і сыноў беларускага народа, сапраўдны гонар нацыі, якія ў розныя часы нашай гісторыі рупіліся аб будучыні Бацькаўшчыны. Зараз наспеў час аддаць ім належнае за іх тытанічную працу, прычасціцца да іх светлай памяці і на іх прыкладзе выхоўваць самасвядомасць нацыі, будучы генафонд Беларусі. І найбольш спрыяльнага месца для Пантэона, як ля Акадэміі навук Беларусі, цяжка знайсці. Разам з помнікам Ф. Скарыне ён пластычна і кампазіцыйна завяршыў бы архітэктурна-прасторавую сітуацыю. З цягам часу тут можа быць сапраўдны мастацкі і духоўны цэнтр нацыі.

**Уладзімір ПРАКАПЦОЎ.**

фарбу лета, дурэючы, пэцкала малявідлам па кустах, дрэвах, залатыя блікі, барвовыя, сонечным промнем праз акно ў цёмным памяшканні высвечваліся кожны дзень новыя постаці, цэлая галерэя роду Хамінскіх. Фамільным гербам блішчэла здалёк аплікацыя з дубовага лісця. Вунь пані, немаладая, трымае свае цудоўныя даўгія кучаравыя валасы ў руках, як якую адзежыну, нехта з ёй побач прыпыніўшыся, добра не разгледзіць. Назаўтра крыху далей ужо стаяла нянька, напаўпаварота, рукі на жываце, ці то прыслухоўваецца да болю ўнутры, ці то ад немачы старэчай прытрымлівае сябе аберуч. Яшчэ жаночы партрэт — адзін твар, напроць яго, як на карце, віновы знак, дама віновая. І ледзь згадвалася постаць кагосьці з дзяўчат, пэўна, Юзюня. Твару не відаць, а каля шыі, на плячах нятленны карункавы каўнер, толькі-толькі ўскладзены і некалькі разоў на дзень — свежая сукенка. Трывога ішла ад яе неўвядальных убораў.

Нарэшце пералесак, лес, кожнае дрэва на маёнтку ўбралася астатні раз, ні каслаўкі лішняй, ні рабаціння,— скрозь светла і ўрачыста. Фарбы на холадзе быццам ужо не разбаўляліся — чыста сіні, чыста галубовы, пластамі, вышэй і вышэй, як падушкі пад самую столь. Кожнае дрэўца ў густым лесе бачна здалёк, стаіць асобна, як у садзе, танютка ўсё распісана пэндзлем аж да гарызонта, спыніся і глядзі, колькі хочаш, і ніхто не папросіць зачыніць дзверы, выйсці з гэтай вялікай цудоўнай залы. Потым ліст ужо не затрымліваўся, пацёк-пацёк далоў. Праз адну марозную ноч асыпаліся дрэвы. Толькі маладзенькія дубы стаялі, як ёсць. Выйшлі, пабраўшыся, уздоўж пералеска, усе аднаго багатага заводу, лісце пакручастае, калянае, чырвонага золата, быццам яно і не леташняе, а даўнейшае дарагое ўбранне палеглых побач волатаў бацькоў.

Пара было закрываць дачу ад'язджаць у горад. Ужо і машына каля ганку, а нешта яшчэ быццам было не зроблена, нешта не пускала. Як жа... не развіталася да вясны...,

Над маёнткам стаяў гул. Вярхавы магутны голас, з той вышыні, з якой нідзе болей, акрамя, можа, гор, вецер не гаворыць да чалавека. Самыя высокія ў акрузе дрэвы. Раптам старая таполя змоўкла, бы нехта яшчэ большы за яе самую абняў ейную галаву, сціўшы. Крокі па лісці выдаваліся незнаёмымі, чужымі. Усюды было прыбрана, як на беднае свята, з астатняга. На ламачча, на пустое кустоўе, на дзікую траву ўскінуты лёгка, ветрам ці крыламі, сурвэткі, выцінанкі кляновага лісця. Усё чысценькае, ледзь свіціцца, пахне свежым тленам, быццам перад святам яно ўсё лішні раз і апошні памытае — абы абысціся адным светлым днём. Заўтра пад дажджамі ад убрання застанецца толькі сівы кужаль. Крыху ўбаку чорнай капліцай стаяў стары сухі дуб. Калісьці гонкае, порсткае галлё не варушылася, ніводнага гуку каля яго, як пры шчыльна зачыненых дзвярах. «Сёння ж Пакровы», — успомніла жанчына. На ўсёй зямлі вакол ішла шчырая служба. Ахвярным агнём ледзь свяціўся над маёнткам захад.

«Радню сабе знайшла... ходзіш і ходзіш...» — дзівіліся суседзі. Жанчына шчаслiва ўсміхалася.

**«ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ**

# Свята ў Вільні

2 кастрычніка ў Вільні адбыліся мерапрыемствы, прысвечаныя ўшанаванню памяці беларускай пісьменніцы, грамадскай і культурнай дзяячкі Зоські Верас (Людвікі Войцік) да 100-годдзя яе нараджэння і гадавіны смерці.

Мерапрыемствы былі арганізаваны Згуртаваннем беларусаў свету «Бацькаўшчына», беларускімі віленскімі суполкамі, Сусветнай асацыяцыяй беларусістаў, Літоўскай асацыяцыяй беларусістаў, Навуковым і культурна-асветным цэнтрам імя Ф. Скарыны, кафедрай беларусазнаўства Віленскага педагагічнага універсітэта. Варта адзначыць самы актыўны ўдзел у гэтай справе кіраўнікоў віленскіх беларускіх суполак Хв. Нюнькі, В. Стэха, а таксама А. Луцкевіча, Л. Плыгаўкі, беларусісткі з Літвы Альмы Лапінскене, прэзідэнта Сусветнай асацыяцыі беларусістаў А. Мальдзіса і сяброў Рады ЗБС «Бацькаўшчына».

У актавай зале Віленскага педагагічнага універсітэта сабраліся віленскія беларусы, сябры Літоўскай асацыяцыі беларусістаў, навукоўцы, пісьменнікі, супрацоўнікі бібліятэк, архіваў і музеяў з Беларусі, студэнты. Пасяджэнне вяла загадчыца кафедры беларусазнаўства Лілея Плыгаўка. У першай палове дня былі прачытаны навуковыя даклады і паведамленні, падрыхтаваныя беларусістамі, супрацоўнікамі Скарынаўскага цэнтра і іншымі навукоўцамі: А. Луцкевічам, А. Лапінскене, А. Мальдзісам, С. Купцовым, Я. Янушкевічам, Э. Зайкоўскім, Я. Войнічам. Яны былі прысвечаны праблемам вывучэння гісторыі беларускага Адраджэння і месца ў ім творчасці і грамадскай дзейнасці Зоські Верас, гісторыі беларуска-літоўскіх узаемаадносін і іншым праблемам гісторыі і культуры.

Далей прайшла дыскусія па надзённых пытаннях развіцця беларусістыкі ў Літве, дзейнасці беларускіх асяродкаў у Вільні, аказання дапамогі з боку Рэспублікі Беларусь у арганізацыі нацыянальнага культурнага жыцця беларусаў у Літве. У прыватнасці, было выказана меркаванне аб неабходнасці аднаўлення Беларускага Віленскага музея імя І. Луцкевіча. Гаварылася і аб адкрыцці помнікаў беларускім дзеячам, устанаўленні мемарыяльных дошак на будынках у Вільні, звязаных з беларускім рухам. У абмеркаванні выступілі А. Мальдзіс, А. Луцкевіч, В. Банайціс, А. Фурс, А. Гардзіцкі, Г. Сурмач. Да гэтага ж госці з Мінска прывезлі для патрэб кафедры беларусістыкі мноства беларускіх кніжак, сабраных беларускімі пісьменнікамі і культурнымі ўстановамі.

Ва ўрачыстасцях прымала ўдзел дачка пісьменніцы Галіна Антонаўна Войцік. Разам са сваім мужам Л. Луцкевічам яна прыклала нямала высілкаў, каб устанавіць помнік на Панарах, дзе пахавана Зоська Верас. Адбылося ўрачыстае адкрыццё помніка. З цёплымі ўспамінамі пра выдатную пісьменніцу, асветніцу, змагарку, добрага і шчырага чалавека, ветлівую гаспадыню колішняй «лясной хаткі» пад Вільняй, нашу незабыўную дарадчыцу ва ўсіх справах адраджэння беларускай культуры выступілі Я. Саламевіч, А. Мальдзіс, Я. Янушкевіч, А. Бяляцкі. Прысутныя ўсклалі кветкі да помніка.

Добрым завяршэннем свята была яго лірычная частка. Выхаванцы Лілеі Плыгаўкі, студэнткі педагагічнага універсітэта, узрушылі прысутных сваім майстэрскім чытаннем вершаў і абразкоў пісьменніцы. Выдатную праграму на высокім духоўным і мастацкім узроўні падрыхтаваў для слухачоў вядомы хор «Унія». Яго кіраўнік Кірыла Насаеў палічыў неабходным адкласці ўсе канцэрты, каб прыняць удзел у святкаванні, за што і быў узнагароджаны самай шчырай прыхільнасцю слухачоў. Трэба адзначыць, што менавіта гэты калектыў вельмі хацелі пачуць віленскія беларусы, ведаючы пра добрую папулярнасць яго на Беларусі. І спевакі не расчаравалі іх, захапленне ўсіх прысутных было найвышэйшым.

Прыемна зазначыць, што на мерапрыемствах прысутнічалі журналісты як з віленскага боку, так і з Беларусі, а таксама запіс рабіла Віленская тэлестудыя, літоўская і беларуская рэдакцыя.

**НАШ КАР.**

# «ІВАНОЎСКІ БЫЎ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ ДЗЕЯЧАМ...»

(Пачатак на стар. 5).

раў з Масквой. Быў прыняты пастулат, паводле якога польскі ўрад дамагаўся аднаўлення з Расеяй граніцы 1772 года — да падзелу Рэчы Паспалітай. Іваноўскі зыходзіў з таго, што ўся тэрыторыя Беларусі можа апынуцца ў палітычнай арбіце Польшчы, і тады незалежна ад становішча тых ці іншых польскіх груповак, партый ці ўрадавых колаў справа федэралізацыі мусіла рушыць. Пілсудскаму гэта спадабалася, ён адобрыў гэтую ідэю і даручыў міністру замежных спраў Польшчы стварыць спецыяльную камісію, якая б рыхтавалася да перамоў з беларускім бокам. Старшынёй камісіі быў Леон Васілеўскі. Дэлегацыя прыехала ў Менск, і яны сядзелі за адным сталом — Іваноўскі і Васілеўскі, як прадстаўнікі дзвюх дзяржаў — людзі, якія ў 1904 годзе супрацоўнічалі ў выданні беларускіх кніг у Кракаве.

Гэта выклікала страшнае незадавальненне сярод дзяржаўных колаў, чыноўнікаў, прэсы і гэтак далей. Чуліся галасы: «Чаму з беларусамі гаворыць дэлегацыя міністэрства замежных спраў? Справа пастаўлена на дыпламатычны ўзровень, тады як з імі павінен гаварыць Асмалоўскі — шэф «цэнтральнага ўпраўлення ўсходніх земляў» — акупацыйнай установы. Абурэнне было вельмі вялікім.

Усю справу вырашыў Тухачэўскі, армія якога прарвала фронт і хутка пайшла на захад, да Варшавы. Потым, вядома, Рыжскі мірны трактат і адмаўленне ад актыўнай палітычнай дзейнасці ва ўмовах Заходняй Беларусі. Гэта вельмі цікава: Іваноўскі, чалавек, які дагэтуль адыгрываў вельмі значную ролю ў беларускім палітычным жыцці, раптам, пасля Рыжскага трактату, адышоў ад палітычнай дзейнасці. Былі людзі, якія папракалі яго: у той час, як яны сядзелі ў польскіх турмах, ён жыў у Варшаве, быў прафесарам політэхнічнага інстытута.

Калі б гэта было так, дык і ў верасні 1939 года ён сядзеў бы ў Варшаве ці недзе ў іншым месцы і не імкнуўся б у Беларусь. Але як толькі развалілася пасляверсальская Еўропа і ўзнікла магчымасць дзейнасці на карысць беларускай дзяржаўнасці, гэты чалавек, калі немцы падыходзілі пад Варшаву, выехаў спачатку ў Люблін (там ён быў кантужаны), потым накіраваўся ў Вільню. Накіраваўся на тэрыторыю, якую займала Чырвоная Армія. Разумееце, у 1939 пачаўся рух беларускіх дзеячаў у іншым напрамку: большасць уцякала з тэрыторый, занятых Чырвонай Арміяй, на тэрыторыю нямецкай акупацыі. Іваноўскі быў, можа, адзіны, хто з-пад акупацыі ўцякаў на ўсход. Гэта цікавая справа: некалькі чалавек было ў кастрычніку арыштавана, сярод іх Антон Луцкевіч. Іваноўскага ніхто не арыштоўваў ні тады, ні ў 1940, ні ў 1941 гадах, калі ў Вільні была ўжо савецкая ўлада. Ён быў савецкім прафесарам, працаваў у Віленскім універсітэце, вашы публіцысты і гісторыкі пісалі, што ў той час ён сядзеў у Берліне і быў старшынёй ці намеснікам старшыні Беларускага камітэта, а пазней быў прывезены немцамі ў Беларусь...

Я ШЧЭ Ў ВЕРАСНІ 1941 Іваноўскаму прапанавалі заняць пасаду бургамістра Менска. Але ён чакаў. Чакаў, як будуць развівацца падзеі. У яго была канцэпцыя — пра гэта я пісаў у кнізе «Беларусь пад нямецкай акупацыяй»: ён спадзяваўся, што акупацыя будзе часовай, што абодва бакі — і нямецкі, і савецкі — дастаткова вынішчацца ў гэтай вайне і што мір ва ўсходняй Еўропе будуць ладзіць заходнія саюзнікі. На добры лад, ён памыліўся на 50 гадоў. Калі я гляджу на тое, што адбываецца сёння, дык думаю, што Іваноўскі памыліўся толькі на 50 гадоў. Але сам я лічу, што калі б немцы захапілі тады Маскву, калі б Чырвоная Армія капітулявала, Іваноўскі не паехаў бы ў Менск. Тады не было б магчымасці палітычнай гульні...

Ну што ж, падчас акупацыі ў яго былі вельмі добрыя адносіны з Кубэ. Абодва яны былі інтэлігентнымі людзьмі, і я ўпэўнены, што Іваноўскі меў вялікі ўплыў на прабеларускія сімпатыі самога Кубэ. Мае словы могуць гучаць дзіўна, але калі мы ацэньваем акупацыйную палітыку ў Беларусі, дык перш за ўсё я бачу розніцу паміж берлінскай палітыкай і палітыкай Кубэ. Берлін амаль не заўважаў Беларусі. Для яго гэта было нешта неакрэсленае, нешта вельмі слабое. І Розенберг, міністр акупаваных абшараў, не ведаў, што з гэтай Беларуссю рабіць. Ён лічыўся з тым, што будзе створана федэрацыя балтыйскіх дзяржаў, Украінская дзяржава, ну а Беларусь, якая не мае ніякага нацыянальнага руху, дзе свядомасць мізэрная? У лепшым выпадку там можа быць нейкая аўтаномія. Была нават думка арганізаваць там запаведнік... Ніякай канцэпцыі не было, і з цягам часу гэтыя яго нігілістычныя адносіны паглыбляліся, да чаго прыкладалася, дарэчы, і партызаншчына. Як Берлін мог ставіцца да краіны, у якой амаль увесь мясцовы адміністрацыйны апарат апынуўся ў руках небеларускіх? Гэта значыць — у Заходняй Беларусі — у польскіх, а на ўсходзе, можна сказаць, у савецкіх. На ўсходзе не было ўвогуле ніякіх нацыянальных намаганняў, кажучы агулам. І тут адзін Кубэ разумеў гэтую справу. Ён імкнуўся (гэта пацверджана дакументальна), дакладней, яму рабілі закіды, што ён імкнецца да стварэння беларускай дзяржавы з Ермачэнкам як прэм'ер-міністрам. Кубэ пад уплывам Іваноўскага зрабіў шмат дзеля ажыўлення гэтага прыгнечанага, падаўленага пачуцця нацыянальнай самасвядомасці. Так, Розенберг лічыўся з тым, што арганізацыі моладзі могуць быць створаныя ў Эстоніі, Латвіі і Літве, а ў Беларусі і на Украіне — не. Кох на Украіне з гэтым пагаджаўся, як і генеральны камісар Літвы Рэнтэльн, які сказаў, што літоўская арганізацыя моладзі садзейнічала б умацаванню літоўскага нацыяналізму, і таму яе не дазволіў. Затое Кубэ рабіў на Беларусі ўсё, каб такая арганізацыя паўстала. Ішло гэта цяжка, але нарэшце Берлін даў дазвол, і Саюз беларускай моладзі быў створаны. Гэта было неспадзяваным нават для саміх немцаў, таму што ані латышская, ані эстонская арганізацыі моладзі не праяўлялі такой актыўнасці, не дасягнулі такіх памераў, як СБМ. Нямецкі даследчык Герцаг у сваёй працы пра маладзёжныя арганізацыі на акупаваных тэрыторыях былога СССР разглядае арганізацыі Літвы, Беларусі і Эстоніі, прычым СБМ займае прыкладна 70 працэнтаў аб'ёму ўсяе кнігі.

Іваноўскі меў значны ўплыў на Кубэ, але ягоныя адносіны з большасцю прадстаўнікоў беларускай адміністрацыі былі вельмі складаныя. Тыя людзі баяліся канкурэнцыі, асабліва Ермачэнка, бо Астроўскі ўжо ўцёк з Генеральнага Камісарыята ў ваенную зону, у Смаленск. Затое засталіся «астроўшчыкі». Я магу паказаць данос — нямецкі паліцэйскі рапарт, зроблены на падставе даносу аднаго з тых людзей, у якім гаворыцца, што Іваноўскі — вораг, польскі агент, што ён падпарадкоўваецца віленскаму архіепіскапу Ялбжыкоўскаму, што ўсе ягоныя намаганні беларусізацыі каталіцкай царквы ўдаваныя... Адносіны Іваноўскага з тымі коламі былі не простыя. Нават Вінцэнт Гадлеўскі яго не хацеў. Яго не прымалі ў Галоўную Раду БНС — гэтага не хацеў Ермачэнка. Яго дакааптавалі да Рады толькі пасля ўмяшальніцтва Кубэ. Іваноўскі кіраваў толькі гарадской управай. Гэта была важная пасада, але толькі ў Менску, а па-за межамі горада ён не мог ні на што ўплываць...

Іваноўскі быў смяртэльна паранены Аляксандрам Камінскім, былым паліцэйскім, перабегшым да партызан, 6 снежня 1943. Але аб падрыхтоўцы гэтай акцыі Готберг — генеральны камісар Беларусі, прызначаны пасля забойства Кубэ — ведаў за два тыдні. Немцы ведалі ўсё. Аб гэтым можна гаварыць шмат...

Камінскі ўцёк у лес разам са сваёй дзеўкай — Алай Навумавай. Пасля вайны Навумава сядзела ў тайшэцкім «курорце», і там жа сядзела засуджаная на 25 гадоў Данута Ліпіньская — шэф разведкі АК у Менску падчас акупацыі. Ад Ліпіньскай я чуў: Навумава тады, у 1949 годзе, расказала ёй усе акалічнасці: як Камінскі вярнуўся з аперацыі і расказваў у партызанскім лагеры, як ён усё зрабіў. У 1960 годзе ў вас выйшла праца аб менскім падполлі і там між іншым апісвалася, як партызаны забілі ворага народа Іваноўскага, але выканаўца пакуль што невядомы. Іван Новікаў, аўтар кнігі «Дарогі скрыжаваліся ў Менску», напісаў, што Камінскі загінуў абсалютна выпадкова перад самым вызваленнем. Але ж Навумава гаварыла Ліпіньскай: іх раздзялілі пасля вайны, яе арыштавалі, судзілі і саслалі, але яна ведала, што пасля прыходу Чырвонай Арміі Камінскі быў жывы. Гэта сведчыць аб тым, што загінуў ён не «пяць хвілін да дванаццаці», а, верагодна, пяць хвілін пасля дванаццаці. Я не выключаю, што яго, як сведку, маглі проста расстраляць перад атрадам, як расстрэльвалі многіх былых паліцэйскіх.

Гавораць, што гісторыя Беларусі — гэта гісторыя нявыкарыстаных магчымасцей. Але забойства Іваноўскага, як і незадоўга перад тым забойства Кубэ, ніяк не магло паўплываць на раззіццё падзей. Чырвоная Армія імкнулася наперад, заняўшы ўжо 20 працэнтаў тэрыторыі Беларусі. Готберг у Менску мініраваў аб'екты. Але рэч тут, хутчэй, у іншым. Успомнім Астроўскага. Ён быў вельмі здольным палітыкам. Дэмагогія, прапаганда ў палітыцы — з'явы нармальныя. Карыстаючыся імі, ён здолеў выкарыстаць усё тое, што было зроблена да тае пары і пакінуць міф — міф аб створанай ім беларускай дзяржаўнасці. А тое, што часам гінулі людзі, якія знаходзіліся на яго дарозе, — а было такіх некалькі і сярод іх, не выключана, Іваноўскі, дык мараль і палітыка — гэта розныя рэчы.

Я не апраўдваю Астроўскага. Але ён зрабіў тое, што выклікае здзіўленне дагэтуль. Людзі фармуюць свае ўяўленні пад уздзеяннем таго, што бачаць. А стварэнне БЦР выглядала вельмі эфектна: поўная незалежнасць Беларусі, дасягнутая ва ўмовах варожай акупацыі. Украіна ці балтыйскія рэспублікі не маглі нават марыць аб гэтым! Канешне, даследчык, пагляддзеўшы дакументы, зразумее, што гэта была фікцыя...

Я згодны з трактоўкай вашымі гісторыкамі падзей часоў Астроўскага. Але гісторыі патрэбны міфы. Гэта не мае нічога агульнага з навукай, так. Але трэба ўважаць: менавіта міфы маюць найбольшы ўплыў на свядомасць грамадства — міф аб дзяржаве, створанай Беларускай Цэнтральнай Радай, міф пра армію, якой так і не стала Беларуская Краёвая Абарона...

Увогуле, міфы, як частка гісторыі Беларусі, працягваюць існаваць. Адзін з іх — Беларуская сялянска-работніцкая грамада, яе дзейнасць у 1925—1927 гадах у Заходняй Беларусі. Колькі ўжо напісана пра ўздым, пра масавасць Грамады, пра суды над актывістамі... Яна дзейнічала няпоўныя два гады, але гэта было эфектыўна! І ў сувязі з тым пачаў ствараецца міф. Цяпер гавораць, што гэта была нацыянальная беларуская партыя, да якой хацелі прымкнуць камуністы, каб пераняць кіраванне. І людзі ўвогуле адкідаюць думку пра тое, што была Данцыгская канферэнцыя, на якой былі вырашаны ўсе справы кіравання і фінансавання гэтай Грамады Камінтэрнам. Не дапускаецца нават думка, што гэта была прыбудоўка да кампартыі, не, бо гэта непрыгожа. Бо гэта значыць, што быў рух, які накіроўвала і фінансавала кампартыя. Калі на гэта ёсць доказы, яны, як не выгодныя, адкідаюцца. Менавіта ў такім напрамку прадстаўлялася справа Грамады на эміграцыі. Дзеля ўмацавання гэтага міфу шмат папрацаваў і Астроўскі. А цяпер я бачу, як гэты міф распаўсюджваецца і на Беларусі. У вас нядаўна быў выдадзены першы том выдання «Идеологическая деятельность компартии» — другі з'явіцца наўрад. Дык вось, там дакладна напісана, як усё вырашалася ў партыйных кабінетах у Менску, менавіта там.

АЛЕ ВЕРНЕМСЯ да міфу пра Вацлава Іваноўскага. Кім у сапраўднасці быў гэты чалавек?

Перш за ўсё, ён адыграў вялікую ролю ў абуджэнні нацыянальнай свядомасці. Ад пачатку стагоддзя да першай сусветнай вайны нешта каля паловы кніжак, выдадзеных на беларускай мове, выйшлі ў свет праз яго намаганні. Палітычныя лозунгі? Не, ён гэтым не займаўся. Толькі праца — эканамічная і культурная — кнігі, як сродак пашырэння свядомасці. Далей — палітычная дзейнасць у гады першай сусветнай вайны. Наўрад ці хто іншы мог зрабіць больш. Іваноўскі быў прыхільнікам непапулярнай сёння ідэі адзінай эканамічнай прасторы. Ён разлічваў на эканамічнае супрацоўніцтва з Расеяй, на партнёрскае супрацоўніцтва. Разам з тым ён разлічваў, што беларускай дзяржавай будуць кіраваць беларусы, а не людзі, прызначаныя з Масквы.

А што датычыць акупацыі... Нядаўна былі апублікаваныя ўспаміны Хрушчова аб тым, што ў канцы 1941 года Сталін быў гатовы заключыць з Нямеччынай новы Брэсцкі мір і сярод іншых перадаць у нямецкую сферу ўплыву Беларусь. У сваю чаргу Гітлер першапачаткова гаварыў аб стварэнні на Усходзе новых дзяржаў, дзяржаў сацыялістычных, бо, паводле ягоных слоў, рэвалюцыя выклікала такія змены ў свядомасці людзей, не зважаць на якія немагчыма. Вайна толькі пачыналася, яе жудасныя вынікі былі наперадзе, а тады размова магла пайсці аб замене цэнтра з Масквы на Берлін. І былі людзі (і сярод іх — Іваноўскі), якія лічылі: праз супрацоўніцтва з такім, як Кубэ, яны могуць атрымаць нейкі шанц — хай нават невялікі. Паводле іх меркаванняў, быў бы, прынамсі, спынены працэс знішчэння мовы і свядомасці народа, ягонай русіфікацыі. Так не адбылося. Гісторыя пайшла сваім шляхам, але мы мусім ведаць, чым кіраваліся тыя людзі.

Калі Беларусь мае быць ператворана ў калонію, тады ўсё ў парадку: Іваноўскі быў ворагам, Кубэ быў ворагам, усе акупанты былі злачынцамі. Але калі вы думаеце пра інтарэсы дзяржавы, нацыі, мовы, культуры, дык трэба памятаць тых, хто гэтыя інтарэсы абараняў. На мой погляд, Іваноўскі не быў палітыкам. Ён быў нацыянальным дзеячам у лепшым сэнсе гэтага слова, і менавіта таму не здолеў паразумецца з палітыкамі. Ён прайграў.

**Запісаў У. ПАНАДА.**

